# Рэгіянальная газета.Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

11 снежня 2015 года №50 **(1076)**




## Ад 13 снежня
## Расклад руху цягнікоў

старонка 20

## Вяскоўцы на Вілейшчыне просяць заасфальтаваць аб'язную дарогу

старонка 2

## Астравеччына лідзіруе па заробках у рэгіёне

**Колькасць прадпрыемстваў з нявыплатамі па заробках ізноў расце**

старонка 3





# Жыхары дома ў Маладзечне змагаюцца за гаспадарчыя пабудовы ў двары

## Ні балконаў, ні падвалаў у доме №67 па Лібава-Роменскай няма

Жыхар дома Сяргей захоўвае ў павеці на двары прылады для рыбалкі

старонка 21

Фота Настассі РОЎДЫ.

УРАЧЫСТАСЦЬ

## Музыканты з Маладзечна выступілі ў амбасадзе Літвы

**Святочны вечар "Вяртанне на радзіму" зладзіла амбасада Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі ў мінулы аўторак.**

Гэтым вечарам літоўская дыпламатычная місія ўрачыста завяршала юбілейны год Міхала Клеафаса Агінскага на Беларусі.

Выступаючы перад запрошанымі гасцямі амбасадар Літвы Эвалдас Ігнатавічус адзначыў, што 250-гадовы юбілей Агінскага змацаваў Літву і Беларусь, Польшчу, Расію, Італію, Нідэрланды, Вялікабрытанію: краіны, звязаныя з імем вялікага чалавека. 2015 год па словах пасла з'явіўся "вянком" 10-годдзя, дзесяцігоддзя, якое стварыла імперыю Агінскага ад Маладзечна да Рэтавы і Плунге, ад Залесся да Фларэнцыі…

Аснову вечара, які праходзіў сярод карцін, твораў літоўскіх і беларускіх мастакоў, склаў канцэрт музыкантаў Беларусі і Літвы. Разам з салісткай **Аўшрай Люткутэ-Павілайцене** і піяністкай **Астай Квасітэ** з суседняй краіны выступалі салісты і інструментальная група сімфанічнага аркестра Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага.

**Аддзел інфармацыі.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

## Для Мядзельшчыны закупілі 200 кантэйнераў і смеццявоз

МЯДЗЕЛ

**Спатрэбяцца яны для асобнага збору смецця.**

90 кантэйнераў установяць у Мядзеле, 110 – у курортным пасёлку Нарач (Купа) і вёсцы Нарач (Кабыльнік). Большую частку кантэйнераў ужо ўстанавілі. Завяршыць установку плануюць у бліжэйшыя дні.

Еўракантэйнеры прызначаныя для збору шкла, макулатуры і адходаў пластмасы і маюць адпаведныя надпісы на кожным.

Для збору другасных рэсурсаў з кантэйнераў прызначаны новы смеццявоз. Графік яго паездак яшчэ не вызначылі – паглядзяць, з якой перыядычнасцю напаўняюцца кантэйнеры.

Сабраныя адходы будуць пастаўляць на станцыю сарціроўкі другасных матэрыяльных рэсурсаў у Мядзеле. Пасля сарціроўкі іх адправяць на перапрацоўку.

Намеснік галоўнага інжынера Мядзельскай ЖКГ **Аляксандр Тарасёнак** кажа, што важна прывучыць людзей да культуры асобнага збору смецця. Каб яны кіраваліся надпісамі на кантэйнерах і выкідвалі шкло да шкла, пластмасу да пластмасы, не пакідалі побач пакеты са смеццем.

Ды і не псавалі кантэйнеры, бо ўжо такія выпадкі ёсць. А кожны кантэйнер каштуе каля пяці мільёнаў рублёў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## За незаконную піратэхніку пакарае міліцыя

**Супрацоўнікі Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце ад 1 снежня да 15 студзеня новага года сочыць за незаконным продажам піратэхнікі.**

Набліжаюцца зімовыя святы, і некаторыя набываюць піратэхніку, каб пасля прадаць.

Праз неасцярожнае карыстанне ўсё часцей здараюцца выпадкі траўмавання ці пашкоджання маёмасці.

За пашкоджанне, знішчэнне маёмасці праз выкарыстанне піратэхнікі ў грамадскіх месцах і дамах прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць.

За знішчэнне ці пашкоджанне прадугледжаны штраф да 50 базавых велічынь (9 мільёнаў рублёў). За дробнае хуліганства чакае штраф ад 2 да 30 базавых велічынь ці адміністрацыйны арышт.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце.**



Кадр з відэа, дасланага Нінай ГАЙЧУК.

У Крывым Сяле знялі на відэа, як пасля праезду машын уздымаецца пыл. І лічаць, што адсутнасць асфальтавага пакрыцця пагаршае экалагічную абстаноўку ў вёсцы.

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Вяскоўцы просяць заасфальтаваць аб'язную дарогу

## Чаму яе не асфальтуюць, тлумачаць дарожнікі

ВІЛЕЙКА

**Жыхарка Крывога Сяла на Вілейшчыне Ніна Гайчук даслала ў рэдакцыю ліст. Хвалюе яе такая праблема: "На аб'язной дарозе каля аграгарадка Крывое Сяло рух транспарту інтэнсіўны – праходзіць шмат вялікагрузных машын. А асфальтавага пакрыцця няма".**




Такі стан дарожнага пакрыцця пагаршае экалагічную абстаноўку ў вёсцы, лічыць жанчына:

– Запыленасць і загазаванасць перавышае ўсе дапушчальныя нормы. Павышаная канцэнтрацыя пылу згубна адбіваецца на здароўе жыхароў. Пыл і смог асядае ў дамах і на прысядзібных участках. А ў ветранае надвор'е людзі не маюць магчымасць весці нармальнае жыццё. Выратавацца ад пылу немагчыма нават у закрытых памяшканнях.

І на дыску відэа прыклала, як уздымаецца пыл пасля праезду машын. А ля самай дарогі – агарод.

У лісце ўказана, што з просьбай заасфальтаваць гэты частак дарогі звярталіся ў райвыканкам мноства разоў, пачынаючы з 1998 года. Але просьбу так і не задаволілі.

Завяршаецца ліст так: "Пасля адказу на нашу просьбу з ДРБУ-162 прыслалі грэйдар. Пасля яго пылу стала яшчэ больш. Пераканаўча просім разгледзець пытанне па асфальтаванні аб'язной дарогі ля Крывога Сяла".

Пад гэтым лістом яшчэ 28 подпісаў.

### "Жвіровае пакрыццё ў добрым стане"

У філіяле "Мінскаблдарбуда" – ДРБУ №162 патлумачылі, што ўчастак з 1,552 па 2,65 кіламетра ўваходзіць у склад мясцовай дарогі агульнага карыстання Крывое Сяло-Варонічы-Будкі-Любоўшы чацвёртай тэхнічнай катэгорыі.

Тып пакрыцця, жвіровае, і іншыя параметры адпавядаюць патрабаванням, што прад'яўляюць да дарог гэтага ўзроўню з улікам інтэнсіўнасці і грузанапружанасці транспартнага патоку.

Па словах дарожнікаў, мінімальная адлегласць ад дарогі да жылой забудовы складае 50-60 метраў.

"У раёне звыш за 200 кіламетраў дарог з асфальтабетонным пакрыццём, якія знаходзяцца ў перадаварыйным стане і патрабуюць тэрміновага рамонту. – пішуць у адказе на зварот.

– Улічваючы гэта, асфальтаванне названага ўчастка дарогі не ўяўляецца магчымым.

Цяпер забяспечаны беспераборйны і бяспечны праезд транспарту, жвіровае пакрыццё ў добрым стане і рэгулярна прафілюецца".



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

● ЭКАНОМІКА

# Астравеччына лідзіруе па заробках ў рэгіёне

РЭГІЁН

**У нашым рэгіёне толькі ў адным раёне намінальная налічаная сярэдняя зарплата за кастрычнік перавысіла шэсць мільёнаў рублёў. У Астравецкім яна складае 6 мільёнаў 123 тысячы рублёў.**




Дадзеныя прыводзяць Галоўныя статыстычныя ўпраўленні Мінскай і Гродзенскай абласцей.

На другім месцы ў рэгіёне Маладзечанскі раён з сярэднім заробкам у 5 мільёнаў 942 тысячы рублёў.

У тройцы лідараў таксама Вілейскі раён. Там налічаны заробак – 5 мільёнаў 642 тысячы рублёў.

Практычна аднолькава налічылі заробку ў двух суседніх раёнах Гродзеншчыны. У Ашмянскім – 5 мільёнаў 572 тысячы, у Смаргонскім – на 11 тысяч менш.

У Валожынскім раёне сярэдні заробак яшчэ меншы – 5 мільёнаў 417 тысяч. На Мядзельшчыне ён крыху не дасягнуў 5 мільёнаў 300 тысяч рублёў.

Такія дадзеныя прыводзяць Галоўныя статыстычныя ўпраўленні Мінскай і Гродзенскай абласцей.

Чаму ж лідзіруе у рэгіёне Астравеччына? Эксперт парталу probusiness.by **Дзмітры Івановіч** у верасні пісаў, што да хуткага росту заробкаў у Астравецкім раёне прывяло будаўніцтва АЭС. Раён па выніках пяці год заняў другое месца пасля Мінска па прыросце сярэдняй зарплаты ў доларавым эквіваленце.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Колькасць прадпрыемстваў з нявыплатамі па заробках ізноў расце

По дадзеных Белстата на першае кастрычніка сёлета ўпершыню за 2015 год усе запазычанасці па заробках у сямі раёнах зніклі. Праз месяц іх колькасць павялічылася да 13-і. А яшчэ праз месяц лічба вырасла ў чатыры разы – 56 арганізацый.

Увесь год, акрамя кастрычніка, у нашым рэгіёне нявыплаты ёсць. У іншых месяцах у спіс даўжнікоў траплялі ад 2 да 77 прадпрыемстваў.




### Што гаворыць статыстыка за апошнія паўгода

Адзіны раён, які за гэты час ні разу не трапіў у спіс, – Астравецкі.

Найгоршая сітуацыя ў Валожынскім, Маладзечанскім і Вілейскім раёнах, дзе ў месяц адначасова 17-20 прадпрыемстваў мелі нявыплаты па заробках.

**Настасся РОЎДА.**
**Графікі аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.12 руб. | 10.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 18 085,00 | **18 259,00** |
| Еўра | 19 204,00 | **19 936,00** |
| Злоты | 4 487,70 | **4 589,88** |
| Расійскі рубель | 271,00 | **264,07** |
| Грыўня | 758,28 | **799,08** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 9.12** | | |
| Еўра | 19000/19300 | **19750/20000** |
| Долар ЗША | 18000/18200 | **18200/18360** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 3.12 Цана руб. | 10.12 Цана руб. |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 144 500 | **138 700** |
| Сасіскі, 1 кг | 54 500 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 29 400 | **26 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | **75 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39 800 | **39 800** |
| Селядзец, 1 кг | 54 000 | **48 800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | **17 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 13 000 | **15 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **23 500** |
| Маянэз, 200 г | 5 700 | **5 500** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 43 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 000 | **13 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 900 | **6 500** |
| Часнок, 1 кг | 47 900 | **48 500** |
| Капуста, 1 кг | 4 000 | **3 500** |
| Морква, 1 кг | 5 900 | **5000** |
| Баклажаны, 1 кг | 5 400 | **4 800** |
| Лімоны, 1 кг | 34 500 | **34 500** |
| Апельсіны, 1 кг | 29 900 | **28 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 19 900 | **24 500** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29 900 | **28 000** |
| Ківі, 1 кг | 24 900 | **27 500** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **5 500** |
| Памідоры, 1 кг | 19 500 | **18 500** |
| Агуркі, 1 кг | 29 900 | **25 000** |
| Перац, 1 кг | 39 900 | **42 900** |
| Вінаград, 1 кг | 26 900 | **26 900** |
| Бананы, 1 кг | 16 900 | **17 900** |
| Хурма, 1 кг | 29 900 | **25 500** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 46 900 | **39 900** |
| Яблыкі, 1 кг | 12 900 | **12 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 900 | **27 500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 4 000 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Нецвярозы паўдня ездзіў на скрадзеным аўто

МАЛАДЗЕЧНА

**По падазрэнні ў здарэнні затрымалі 30-гадовага маладзечанца. Узбудзілі крымінальную справу.**

У суботу, 5 снежня, каля 16 гадзін нецвярозы маладзечанец угнаў "Рэно-19", распавёў намеснік начальніка Маладзечанскага райаддзела ўнутраных спраў па ідэалагічнай рабоце Уладзімір Васількоў. Аўтамабіль стаяў на стаянцы ў двары дома №72А па Вялікім Гасцінцы.

У той жа дзень каля апоўначы ўгоншчык на скрадзеным аўтамабілі трапіў у аварыю. Пабіў пярэднюю левую фару, задні бампер і кінуў машыну паблізу дома №20 па вуліцы Будаўнікоў.

Падазраванага па прыкметах, перададзеных аператыўным дзяжурным Маладзечанскага РАУС, затрымаў нарад Маладзечанскага аддзела дэпартамента аховы. Падазраваны ў гэты час быў непадалёк, каля дома №22.

Гаспадар скрадзенага аўтамабіля, таксама маладзечанец, заявіў у міліцыю пра ўгон а палове першай ночы 6 снежня. Ужо пасля таго, як адбылося ДТЗ.

**Аддзел інфармацыі.**

## Падрабязнасці аварыі, у якой пацярпелі чатыры чалавекі

ВІЛЕЙКА

**Падчас праверкі па здарэнні, якое адбылося 29 лістапада каля Вілейкі, высветлілася, што ў пацярпелых цяжкія траўмы.**

Пра гэта распавёў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Андрэй Дударчык**. У панядзелак, 7 снежня, узбудзілі крымінальную справу.

Аварыя адбылася апоўдні 29 лістапада. Непадалёк ад Вілейкі на аўтадарозе Мінск – Маладзечна – Нарач сутыкнуліся "Фольксваген Пасат" і "Сітраэн Эвазіён".

34-гадовы кіроўца "Сітраэна", віляйчанін, пры абгоне выехаў на сустрэчную паласу, на якой рухаўся "Фольксваген".

У лабавым сутыкненні 47-гадовы кіроўца "Фольксвагена", маладзечанец, атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні. У машыне былі жонка і дачка кіроўцы, якія таксама атрымалі траўмы.

Усіх пацярпелых даставілі ў Вілейскую цэнтральную раённую бальніцу.

Як патлумачыў Андрэй Дударчык, кіроўца "Сітраэна", у адносінах да якога ўзбудзілі крымінальную справу, не ўпэўніўся ў тым, што дарожная сітуацыя дазваляе пайсці на абгон.

**Аддзел інфармацыі.**

СЛУЖБА 101

## Гарэлі два хлявы – іншыя ўдалося адстаяць

МЯДЗЕЛ

**Паведамленне пра пажар у вёсцы Баравыя Нарацкага сельсавета паступіла 2 снежня пасля 23:00.**

Суседзі заўважылі, што гараць хлявы.

У выніку адзін хлеў згарэў, другі – пашкоджаны. Блізка яшчэ знаходзіліся хлявы, але іх удалося адстаяць ад агню, расказаў галоўны спецыяліст інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Юры Вашкінэль**.

Хлявы не былі электрыфікаваныя. Прычына пажару ўстанаўліваецца.

**Аддзел інфармацыі.**





КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# Каму спатрэбіўся мядзельскі біятуалет?

МЯДЗЕЛ

**Крымінальную справу за крадзеж біятуалета ўзбудзіў Мядзельскі раённы аддзел следчага камітэта 3 снежня.**

У міліцыю звярнуліся супрацоўнікі прадпрыемства "ДЭУ-66", якія абслугоўваюць дарогу Мінск – Калачы – Мядзел. Яны паведамілі, што на 98 кіламетры дарогі, паблізу вёскі Пашкоўшчына, хтосьці скраў пластыкавы туалет.

Начальнік следчага камітэта **Аляксандр Штура** расказаў "Рэгіянальнай газеце", што цяпер па гэтай справе праводзіцца комплекс следчых дзеянняў і аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў.

– Туалет – канструкцыя неразборная, але лёгкая. Цяпер высвятляецца, якім чынам і колькі чалавек маглі вывезці яго з пастаяннага месца.

Аляксандр Штура расказаў, што раней у яго практыцы здараўся падобны выпадак. Два гады таму знік біятуалет з турыстычнай стаянкі "Антанінзберг" непадалёку ад курортнага пасёлка Нарач (Купа). Як мяркуецца, тады ў крадзяжы ўдзельнічалі некалькі чалавек – як мінімум двое. І звезлі туалет з дапамогай транспартнага сродку.

Яшчэ раней на Мядзельшчыне кралі туалеты, стылізаваныя пад грыбкі – знаходзіліся яны ля дарог.

Цяпер біятуалет каштуе ад 6 да 20 мільёнаў рублёў.

**Наталля ТУР.**
**Фота ecoline-ural.ru.**



СЛУЖБА 101

## Да канца года службы МНС зладзяць шэраг акцый, каб Новы год быў шчаслівым для ўсіх

МАЛАДЗЕЧНА

**У Маладзечанскім раёне стартавала пажарна-прафілактычная акцыя "Бяспечны Новы год!"**

Звычайна напярэдадні Новага году рэзка павелічваецца колькасць пажараў і траўмаў з-за парушэння правілаў пажарнай бяспекі пры падрыхтоўцы да святаў, неасцярожнага абыходжання з піратэхнічнымі вырабамі.

Папярэдзіць надзвычайныя сітуацыі з падобнымі наступствамі - мэта рэспубліканскай акцыі "Бяспечны Новы год!".

Акцыя будзе праходзіць ад 7 па 30 снежня ў 4 этапы.

1 этап – ад 7 да 12 снежня ратавальнікі правядуць акцыі ў аздараўленчых цэнтрах, прафілакторыях, дамах адпачынку, пансіянатах.

2 этап – ад 14 да 20 снежня супрацоўнікі МНС наведаюць агульнаадукацыйныя ўстановы, інтэрнаты, установы пазашкольнай работы, дамы сямейнага тыпу, сем'і, дзе дзеці знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы.

3 этап – ад 21 да 24 снежня акцыі пройдуць у месцах продажу піратэхнічных вырабаў, на закрытых і адкрытых лядовых катках, у дзіцячых установах аховы здароўя.

4 этап – ад 29 да 30 снежня – на вакзалах, пунктах грамадскага харчавання, адкрытых пляцоўках, буйных гандлёвых цэнтрах, рынках, дзіцячых забаўляльных цэнтрах і іншых грамадскіх месцах, у якіх збіраецца шмат людзей.

**Па інфармацыі Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях.**

## На Мядзельшчыне гарэў збожжасклад – мяркуюць, з-за абагравальніка

МЯДЗЕЛ

**Каля апоўначы 3 снежня на Мядзельшчыне загарэўся будынак збожжасклада ў вёсцы Восава Княгінінскага сельсавета.**

Выратавальнікам паззваніў вартаўнік сельгаспрадпрыемства "Пруднікі-Агра".

Калі да месца выкліку прыбылі першыя падраздзяленні райаддзела, агонь ахапіў палову даху склада. Пажар пачаўся з убудаванага дапаможнага памяшкання.

У выніку агонь знішчыў дах на плошчы 370 квадратных метраў, выгарала бытоўка. Пашкоджана 11 тон трыцікале і 28 тон зернебабовых.

Супрацоўнікі МНС выратавалі ад агню 28 тон ячменю. Ён захоўваецца ў другім адсеку склада, – паведаміла інспектар групы прапаганды і навучання райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Ірына Карапяцян**.

Мяркуюць, што прычынай пажару стаў пакінуты без нагляду абагравальнік.

**Аддзел інфармацыі.**

ГУЛЬНІ

# Мазгабойня: як за 100 секунд пажартаваць і праявіць акадэмічныя веды

МАЛАДЗЕЧНА

**У пятніцу, 4 снежня, у Маладзечне ўпершыню адбылася інтэлектуальная гульня “Мазгабойня”.**

Трэба сказаць, што старт гульні быў дадзены моцны. Ужо ў першай гульні ўзялі ўдзел 10 камандаў.

Карэспандэнты “Рэгіянальнай газеты” стала адзіным інфармацыйным партнёрам і зарэгістраваліся на гульню пад назвай “Гузікі”.

Назвы каманд – гэта, наогул, асобныя гісторыі. Як вам назва “Санаселікафобы”?

Яшчэ адна адметнасць гэтай гульні ў тым, што колькасць удзельнікаў у ёй не строга рэгламентавана.

Так, паміж сабой спаборнічалі каманды, у якіх гуляла 7 або 8 гульцоў, супраць каманды, у якой былі два чалавекі.

Каманда называлася “Тры дубы”, але перад пачаткам гульні, сябры аднаго з удзельнікаў не прыйшлі, і хлопцу давялося шукаць сабе таксама напарніка без каманды. Хлопцы, якія раней нават не былі знаёмыя, сыгралі ўдвух і пры гэтым занялі другое месца.

Калі вы яшчэ сумняецеся, ці па зубах вам пытанні “Мазгабойні”, мы вам прапануем прайсці кароценькае выпрабаванне з тых пытанняў, якія былі зададзеныя падчас гульні.

1. Генры Форд сцвярджаў, што аўтамабіль можа быць любога колеру, абы …

(Чорнага)

2. Як называецца покрыва, якое накідваюць на круп каня?

(Папона)

3. Як у Гарвардзе называліся школьныя альбомы, у якіх былі надрукаваныя фота і інфармацыя пра вучняў?

(Facebook)

4. Працягніце радок: “Нет, ребята, я не гордый, не заглядывая в даль, ….”

так скажу, зачем мне орден, я согласен на медаль

5. Назва маркі якога аўтамабіля перакладаецца з латыні як “круг, рух”.

Volvo

Акрамя пытанняў на агульную адукацыю, падчас гульні давялося ўспомніць і свае музычныя веды. Напрыклад, трэба было ўзгадаць, што песню выконвае Муслім Магамаеў, або што музычны фрагмент прагучаў у фільме “Чалавек дажджу”.

У раўндзе з выявамі трэба было здагадацца, што рэкламуецца на плакаце або назваць імя чалавека, фота якога паказалі на слайдзе.

Агульнымі намаганнямі каманда “Рэгіянальнай газеты” у першай мазгабойні заняла чацвёртае месца.

Наступная гульня адбудзецца 18 снежня. Аднак для таго, каб прыняць у ёй удзел, трэба загадзя зарэгістравацца ў суполцы гульні ў сацыяльнай сетцы.

**Наталля ТУР.**




Фота vk.com.

**У гульні здараліся такія пытанні, што адказу не здзівіцца было немагчыма. На фота прадстаўнікі каманды "Абрамовіч і Ко".**



КУЛЬТУРА

## Каб паставіць оперу на выездзе з Маладзечна вывезлі нават люстры

МАЛАДЗЕЧНА

У Віцебску адбыўся паказ оперы сімфанічнага аркестра Маладзечанскага музычнага каледжа “Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт”.

Як расказаў “Рэгіянальнай газеце” кіраўнік сімфанічнага аркестра **Рыгор Сарока**, маладзечанская опера была першай операй, якую ўбачыў віцебскі глядач за апошнія 30 гадоў.

Адметна тое, што білеты на оперу раскупілі за тры тыдні. Пасля паказу ў Віцебскай музычнай школе адбыўся педсавет, на якім выкладчыкі, музыканты разважалі пра тое, чаму ў Маладзечне аказалася магчымым паставіць оперу, а Віцебск нават за гэтую справу не спрабаваў узяцца.

**– Рыгор Сямёнавіч, а вы ведаеце адказ на гэта пытанне?**

– Так. Таму што ў Маладзечне ёсць я!

У бліжэйшых планах аркестра –пастаноўка оперы ў Гродне. 5 снежня маладзечанскую оперу пабачаць гледачы сталічнага Дзяржаўнага музычнага тэатра.

**Наталля ТУР.**

### Пастаноўка оперы ў Віцебску ў лічбах і з усмешкай

**1083** глядзельныя месцы ў віцебскай канцэртнай зале былі запоўненыя гледачамі.

**3** тыдні спатрэбілася на тое, каб прадаць білеты

**5** аўтобусоў накіраваліся да Віцебска з артыстамі, касцюмамі, музычнымі інструментамі і дэкарацыямі. З Палаца Культуры вывезлі нават бутафорскія аргомністыя люстры, каб захаваць максімальныя дэкарацыі спектакля.

**110** музыкантаў і артыстаў прадстаўлялі оперу ў Віцебску.

**У 30** мільёнаў рублёў абышлася арэнда залы ў Віцебску.

**120** мільёнаў рублёў атрымаў аркестр за пастаноўку.

**1** Рыгор Сарока ёсць у Маладзечне, дзякуючы якому Маладзечна па праву носіць званне культурнай сталіцы Беларусі.

ХАРЧАВАННЕ

## На Вілейшчыне забаранілі прадаваць амаль 50 кілаграмаў прадуктаў

ВІЛЕЙКА

У лістападзе ва ўсіх правераных гандлёвых аб’ектах на Вілейшчыне санітарна-эпідэміялагічная служба знайшла парушэнні. Гэткія вынікі праверак выканання санітарна-заканадаўства аб’ектамі гандлю і грамадскага харчавання, у тым ліку прыдарожнага сэрвісу.

Найчасцей фіксаваліся парушэнні правілаў таварнага суседства – 28% выпадкаў. У 22% выпадкаў не арганізавалі вытворчы кантроль, а 17% – не стварылі ўмовы для захавання правіл асабістай гігіены. Таксама былі выпадкі парушэнняў тэмпературнага рэжыму захоўвання, несвоечасовай уборкі памяшканняў крам і іншыя.

Па матэрыялах праверак да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі 18 службовых асоб на суму амаль 20 мільёнаў рублёў. Выдалі адно прадпісанне аб ліквідацыі выяўленых парушэнняў. Забаранілі прадаваць амаль 50 кілаграмаў прадукцыі. Двух чалавек прыцягнулі да дысцыплінарнай адказнасці. Пра ўсё гэта расказала доктар-гігіеніст Вілейскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Алена Ліхачэўская**.

**Аддзел інфармацыі.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Білет на канцэрт дапаможа дзецям

ВІЛЕЙКА

**На Вілейшчыне пачынаецца дабрачынны марафон “Дзеці – супраць рака”.**

Яго мэта – аказаць дапамогі сем'ям з Вілейскага раёна, якія выхоўваюць дзяцей з анкалагічнымі захворваннямі.

– Раней ў Вілейцы праводзіліся дабрачынныя канцэрты для дапамогі асобным хворым дзецям, а зараз вырашылі правесці цэлы марафон для падтрымкі ўсіх дзяцей, – расказвае старшыня раённага аддзялення Чырвонага крыжа **Святлана Лях**.

Ва ўсіх дамах культуры і клубах раёна пройдуць дабрачынныя канцэрты. Выступяць удзельнікі мастацкай самадзейнасці Палаца культуры. Падключацца артысты, валанцёры Чырвонага Крыжа.

**Фінальны канцэрт пройдзе ў Палацы культуры**

Завяршыць марафон дабрачынны канцэрт з удзелам беларускіх эстрадных артыстаў. Пройдзе ён ў Палацы культуры. Хто канкрэтна выступіць, пакуль не вызначалі. Да фінальнага канцэрту яшчэ шмат часу – яго плануюць правесці ў маі ці верасні наступнага года.

Усе атрыманыя ад продажы білетаў сродкі пералічаць на лячэнне дзяцей.

Старт марафону плануюць даць у Нарочкім Доме культуры 19 снежня ў 18 гадзін. Усяго збіраюцца правесці больш за 20 канцэртаў.

– Мяркую, усё ў нас атрымаецца, – кажа Святлана Лях. – Людзі патрохі выдаткуюць грошай на білет на канцэрт, а сем'ям будзе дапамога ў барацьбе з хваробай.

Алесь ВЫСОЦКІ.

Мама Дзмітрыя Рудыка (злева) Марыя Іванаўна выканала некалькі песень на ўкраінскай мове. Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

КАНЦЭРТЫ

# Артысты і гледачы проста падарылі дапамогу дзецям

МАЛАДЗЕЧНА

**Дабрачынны канцэрт “Проста падары” адбыўся ў запоўненай зале 3 снежня ў раённым Цэнтры культуры.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Арганізатар дабрачыннага канцэрта Дзмітры Рудык.

Яго арганізавалі вядоўца і спявак **Дзмітры Рудык** і фатограф **Вольга Жарская**.

Сродкі, якія атрымкалі ад продажу білетаў, перадалі Цэнтру карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі ў Маладзечне.

Канцэрт прайшоў у вельмі цёплай і нават дамашняй атмасферы. Падчас адной з песень у групе танцавальнага калетыва “Капрыз” Маладзечанскай гімназіі-каледжа выступіла дачка Дзмітрыя **Маша**. Адну з песень спявак прысвяціў маме, якая паходзіць з Украіны. Жанчына выканала некалькі песень на ўкраінскай мове.

Нашым чытачам многія выступоўцы добра знаёмыя. Вядучымі запрасілі дырэктара Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргея Ганчара**, дырэктара Палаца культуры **Алесю Высоцкую** і сакратара Вілейскага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання **Ганны Раенкі**.

Многія песні выконваў сам Дзмітры Рудык. Запальваючы нумар паказаў шоу-балет “Дзіва”. Віртуозную ігру на гармоніку прадэманстраваў музыкант з Вілейкі **Барыс Харэвіч**.

Выступіў **Казімір Талстыка** з Вілейкі – уладальнік гран-пры песеннага фестывалю “Адна зямля” ў 2002 годзе, суарганізатарам якога з'яўляецца “Рэгіянальная газета”.

Алеся Высоцкая спявала дуэтам з Дзмітрыем Рудыкам, а пасля ў складзе ансамбля “Веселя казацкая”.

**Падчас канцэрта разыгрывалі прызы. Адзін з іх, том “Краіна Беларусь” ад “Рэгіянальнай газеты”, выйграў глядач Веніямін.**

Дабрачынны канцэрт набыў шмат спонсараў. Ідэю адразу ж падтрымаў райвыканкам і Цэнтр культуры.

Зоя ХРУЦКАЯ.

СВЯТЫ

## Адзначаць 145-годдзе Фердынанда Рушчыца (Праграма ўрачыстасцяў)

ВАЛОЖЫН

10 снежня ў аграгарадку Багданаў Валожынскага раёна пройдуць святочныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да 145-годдзя мастака Фердынанда Рушчыца.

**9:30 – 10:00** – памінальная імша ў касцёле св. Міхаіла Архангела ў аграгарадку Багданаў.

**10:10 – 10:40** – наведванне фамільных могілак Рушчыцаў.

**10:50** – сустрэча ўдзельнікаў урачыстасцяў у Багданаўскім філіяле Вішнеўскай дзіцячай школы мастацтваў.

**11:00 – 13:00** – урачыстае адкрыццё свята: выступленне Міністра культуры Беларусі **Барыса Святлова**.

У межах адкрыцця свята адбудзецца ўрачыстае гашэнне юбілейнай маркі. Пройдзе прэзентацыя фільма "Фердинанд Рущиц. Небесное и земное", адбудзецца прэзентацыя кнігі ""Фердинанд Рущиц". Запланавае выступленне ўнука мастака – **Фердынанда Рушчыца**.

Ва ўрачыстасцях возьмуць удзел дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі **Уладзімір Пракапцоў**, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Літвы **Рамуалдас Будрыс** і іншыя пачэсныя госці.

Аддзел інфармацыі.

ІМПРЭЗЫ

## Музей запрашае на “Апантанае чаяванне ў стылі арт-хаус”

ВІЛЕЙКА

Напярэдадні Новага года Вілейскі краязнаўчы музей запрашае ў Краіну цудаў, ілюзій і абсурду на выставу “Апантанае чаяванне ў стылі арт-хаус”.

Тут вы зможаце пазнаёміцца з “Хітрым Шулерам”, павандраваць разам з мядзведзікам і мышаняткам, паглядзець цікавыя чайнікі, пабываць пад чароўным дрэвам на апантаным чаяванні. Ну і, канешне, якое чаяванне без галоўнай гераіні кнігі Льюіса Кэрала “Аліса ў Краіне цудаў”...

На выставе прадстаўлі дызайнерскія работы **Вольгі Пескавой**, работы хэнд-мэйд **Ірыны Вярыгі**, прадметы з прыватных калекцый **Людмілы Буркевіч** і **Анастасіі Аўдзей**, а таксама творчыя работы ўдзельнікаў і настаўнікаў Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

Працягнецца выстава да канца снежня.

Надзея АЎДЗЕЙ,
навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.

ІНІЦЫЯТЫВА

# Вілейскія краязнаўцы паставілі стэнд у Куранцы

ВІЛЕЙКА

У суботу, 5 снежня, сябры Вілейскага таварыства аховы помнікаў усталявалі новы інфармацыйны стэнд у былым мятэчку Куранец каля банка.

На стэндзе можна даведацца пра гісторыю вёскі, выбітных жыхароў і цікавыя месцы Куранца.

Гэта трэці стэнд за год, які ўсталявалі вілейскія краязнаўцы ў раёне. Папярэднія размясцілі ў вёсках Камена і Касута.

У планах таварыства на наступны год – усталяваць яшчэ каля пяці інфармацыйных стэндаў.

Суполка дзякуе за дапамогу ўсім, хто далучыўся да падрыхтоўкі тэкста і ўсталявання стэнда, а таксама тым, хто падтрымаў ідэю фінансава.

Павел ХАВАНСКІ,
сябра Вілейскага таварыства аховы помнікаў.




Фота забяспечана Дзян сам КАНЕЦК М.

Сябры Вілейскага таварыства аховы помнікаў пасля ўсталявання стэнда ў Куранцы. Злева направа: Аляксандр Наркевіч, Дзяніс Канецкі, Зміцер Хаценчык, Генадзь Кірылаў.

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі 100 С-4, 1992 г.в, 2,3Б, у добрым стане. Т. (8-029) 3056139.*
- Аўдзі А-6, 1995 г.в, 2,0 бензін, універсал. Т. Вэлком (8-029) 6466652, МТС (8-029) 5722940.
- ВАЗ 21093, 2004 г.в, 1,5і, 27 900 000 руб, торг. Т. (8-025) 5344461.
- Гольф 3, 1996 г.в, 1,4Б. Т. (8-029) 6158448.*
- Квадрацыкл 350 куб. см з кузавам і прычэпам, 15 000 000 руб, скутар 2-месны, трыцыкл для інваліда, бензапіла профі, ўсё б/у, у добрым стане. Т. (8-029\) 9267050, (8-029) 5545653.
- Опель-Астра, 2013 г., 90 000 000 руб. Гольф-6, 2012 г., 80 000 000 руб. Т. (8-029) 3063523.*
- Опель-Кадет, 1987 г.в, 1,4 бензін, на хаду, выдатны стан, 10 000 000 руб, торг. Маладзечанскі р-н. Т. (8-029) 8641168, (8-044) 7518281.
- Пежо-306, 2000 г.в., хэчбэк, 5 дзвярэй, бензінавы рухавік, аб'ём 1,6 л, цэнтральны замок, датчыкі дажджу, АБС, выдатная гума на ўсе сезоны. Цана дагаворная. Т. МТС 8737295.*
- Прычэпы МТЗ, ЗІЛ, Мураўей, запчасткі да МТЗ-80. Маладзечна. Т. (8-029) 7528897.
- Рэно-Велсаціс, 2003 г.в, 2,2 дсі, колер хамелеон, усё працуе, замененае масла, рэмень, 76 000 000 руб. Т. (8-029) 7046266.*
- Рэно-Канго, 1998 г.в, 1,2 бензін, 300 тыс. км + камплект гумы, 47 000 000 руб. Т. (8-01776) 778888, (8-029) 6654868.*
- Рэно-Лагуна, 1996 г.в., нядорага. Т. (8-029) 3437131.*
- ФВ Гольф 3, 1994 г.в, 1,4 бензін, 30 000 000 руб, торг. Вілейка. Т. (8-029) 7309791.
- ФВ Гольф, 12.1999 г.в, 1,9 ТДІ. Т. (8-044) 7700274.*
- ФВ Гольф, 1993 г.в, 1,8, мона, універсал. Т. (8-029) 3963281.
- ФВ Пасат В4, 1994 г.в, 1,8 бензін, універсал, светла-зялёны. Т. (8-029) 7715684.
- ФВ Пасат В4, 1994 г.в, 1,8 мона, універсал, 49
- Форд-Фіеста, 1992 г.в, 1,1 бензін, чырвоны, добры стан, 13 000 000 руб, торг. Т. (8-025) 7885936.
- Форд-Эскорт, 1995 г.в, інжэктар, універсал, на запчасткі. Т. (8-033) 3091535.
- Хундай поні, 1993 г.в, 1,5 бензін, інжэктар, серабрысты седан, зімовая гума, нядорага. Т. (8-033) 6002486.
- Запчасткі ад а/м Мазда 626, рухавік 2,0 бензін, КПП, карбюратар, стартэр, генератар, нядорага. Маладзечанскі р-н. Т. (8-029) 8641168, (8-044) 7518281.
- **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Версa; Фольксваген-Цыгуян, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карневал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*
- Запчасткі б/у да Форда-Сіеры. Т. (8-029) 6578681.*
- Запчасткі да Сітраен-Ксара-Пікасо. т. (8-029) 7763394.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава, а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

### ПАСЛУГІ

- **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА ПАД УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*
- Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-033) 6380006, (8-029) 8745490.
- 3-пакаёвая кватэра 66,9 кв. м, с/в раздзельны, часткова шклопакеты, інтэрнэт, тэлефон. 599 000 000 руб, торг. Тэрмінова! Т. (8-01771) 20672, (8-033) 3330511.
- 3-пакаёвая кватэра на два бакі 5/9 цаглянага дома па вул.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. 1 Мая, нядорага. Т. МТС (8-029) 2694696.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 70,1 кв.м, часткова з мэбляй. Т. (8-029) 1281771.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Замкавай, 66 кв.м, 1 паверх. Т. (8-029) 6888111, (8-029) 3555444.*
- 3-пакаёвая кватэра ў пасёлку Чысць, агул. пл. 74 кв.м, 3/3 блок, пад'езд нешматлюдны, усе сацаб'екты ў крокавай адлегласці. Т. (8-033) 6699866, (8-029) 6423070.
- 3-пакаёвая кватэра, дом у цэнтры Вілейкі. Т. (8-01771) 28073, (8-033) 6041497, МТС (8-029) 7125425.
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5459808.*
- Будаўнікоў. 64,7/39,8/8,0, с/в раздзельны, балкон + лоджыя, 1 038 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 5587283, Вэлком (8-044) 7027735.*
- Гараж у ГК Маладзечна (ускраіна), 75 000 000 руб, торг. Т. МТС 7070885.*
- Гараж у ГК 18 г. Маладзечна. Т. Вэлком (8-044) 5884956.
- Гараж у ГК 32 Маладзечна (Фестывальны), пліты перакрыцця, патынкаваны, высокі, цана 135 000 000 руб, торг. Т. МТС 7070885, 7601272.*
- Дом з мэбляй у цэнтры Залінейнага р-на Маладзечна, агул. пл. 80 кв.м, 4 пакоі, газ, ванна, с/в, шклопакеты, дзверы двайныя, гаспадарчыя пабудовы, сад, цяпліцы, 7,5 сотак, тэрмінова, 900 000 000 руб., торг. Т. (8-029) 9799267.
- Дом у в. Безводнае Вілейскага р-на. Т. (8-029) 5723243.
- Дом у в. Бязводнае Вілейскага р-на Ільянскага с/с, 7х9, ацяпленне пячное (кафель), паравое водазабеспячэнне ў доме, на вуліцы – калонка. Ёсць тэлефон і інтэрнэт. Участак 0,25 га. На ўчастку: лазня, бетаніраваны склеп, гараж і іншыя сельгасбудаўнічыя пабудовы. Усе дакументы афармленыя. Ад трасы Мінск-Мядзел – 500 м, да Вілейскага вадасховішча – 5 км. Т. (8-029) 7567653 Людміла Мікалаеўна.*
- Дом у в. Палачаны, нядорага. Тэрмінова. Т. МТС (8-033) 3618077, Вэлком (8-044) 7750241.*
- Дом у вёсцы з надворнымі пабудовамі. Т. МТС (8-029) 2568748.*
- Дом у вёсцы, 5 км ад Вілейкі, 36 000 000 руб. Т. (8-029) 5676832.*
- Дом у Вілейцы, усе выгоды, гаспадарчыя пабудовы, гараж. Т. (8-029) 5358791.

### ЗДАМ

- 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. МТС 5029804.*
- 3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Ларына, 5А на працяглы тэрмін. Т. (8-029) 1282652.*
- Кватэру ў в. Асіпавічы, нядорага. Т. (8-029) 7043307.
- Ларкі ў арэнду ў Вілейцы. Т. МТС (8-029) 7016721.*
- Ралет у арэнду,12 кв. м, у цэнтры Ашмянаў, 1 000 000 руб / месяц. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т. (8-029) 6631595.*

### ІНШАЕ

- Запрашаем у долевае будаўніцтва гандлёва-забаўляльнага цэнтра і піцэрыі-кафетэрыя ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 6585363, (8-029) 7005039. ТАА "Гандлёва-забаўляльны цэнтр "Нераст" УНП 691175800.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Навагоднія карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж. Усю восень скідка 30% на вытворчасць вясельных фільмаў. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Бус 1,5 тон, нядорага. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерседэс 412, 2,5 т, паслугі грузчыка. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- Мерседэс, 4,5 х 2 х 2,15, да 3,5 т, санпашпарт, санкніжка, без выхадных. ІП Шыкін А.В. УНП 691507751. Т. (8-029) 8605068.*
- Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Аграсядзіба "У Мароза" запрашае на правядзенне карпаратываў. Т. (8-029) 6650884, (8-029) 8726471.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш**. АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі**. ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*
- Брыгада будаўнікоў выканае мантаж, дэмантаж любой складанасці, бетонныя, дахавыя, адзелачныя і інш. віды будаўнічых работ. ІП Невяровіч Ю.П. УНП 691892829. Т. (8-029) 5671404.*
- Будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў: дах, аддзелка любой складанасці, падмурак, кладка і інш. ПП "АлексДом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*
- Выраб і ўстаноўка міжпаверховых лесвіц з дрэва і жалезабетону. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*





**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

ЗДАРОЎЕ

## Як не захварэць ад кавалка мяса

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад году ў год у Беларусі працягваюць рэгістравацца ўспышкі трыхінелёзнай інфекцыі. За 6 месяцаў у Мінскай вобласці зарэгістравалі 5 выпадкаў трыхінелёза.**

На тэрыторыі Маладзечанскага раёна пры даследаванні мяса дзікоў спецыялісты ветэрынарна-санітарных лабараторый перыядычна знаходзяць трыхінелёз. У 2011 на тэрыторыі нашага раёна зарэгістравалі ўспышку трыхінелёзу ў сямі чалавек, звязаная з ужываннем мяса дзіка.

Таму ў сезон палявання і масавага забою свіней нагадваем, што гэта за захворванне і як ад яго засцерагчыся.

Трыхінелёз узнікае, калі ў арганізм трапляе дробны гельмінт трыхінел спіраліс. У народзе хваробу называлі "адутлаватка", таму што адно з яе праяў – ацёк твару і павекаў. У хворага з'яўляецца моцны боль у мышцах, падымаецца тэмпература да 40 градусаў, могуць быць страўнікава-кішачныя расстройствы. Заражэнне адбываецца, калі ядуць недастаткова тэрмічна апрацаванае мяса, у якіх ёсць лічынкі трыхінел.

### Адкуль ідзе хвароба

Крыніцай інфекцыі з'яўляюцца дзікія драпежныя і ўсеядныя жывёлы (дзікі, барсукі, мядзведзі, лісы, ваўкі). Яны забяспечваюць цыркуляцыю паразіта ў прыродзе праз драпежніцтва і ўжыванне трупаў заражаных жывёл.

Свойскія свінні заражаюцца трыхінелёзам, калі ядуць трупы грызуноў, заражаныя лічынкамі трыхінел ці адходы забою хворых жывёл. Таму на падворках неабходна старанна абараняць памяшканне, у якіх трымаецe свіней, каб да іх не трапілі грызуны. Вясной і восенню ў бытавых і гаспадарчых пабудовах абавязкова праводзіць сезоннае знішчэнне грызуноў.

### Як сябе засцерагчы

Абавязкова правядзьце санітарна-гігіенічную экспертызу мяса, як свойскіх свіней, так і дзікіх драпежных і ўсеядных жывёл, адстрэленых на паляванні.

Што тычыцца дзіка, то ў Беларусі яшчэ не адменена часовае становішча аб адмысловым рэжыме канфіскацыі, пахавання і (або) знішчэнні рэсурсаў дзіка. Яно забараняе вывозіць з тэрыторыі паляўнічых угоддзяў і есці мяса дзіка.

Для лабараторнага даследавання ад тушы жывёліны адбіраюць дыяфрагму цалкам, абавязкова з ножкамі. Адабраныя пробы вязуць у ветэрынарныя лабараторыі, размешчаныя на рынках горада і ў межрайветлабараторыю Маладзечанскай райвестанцыі ў вёсцы Менюткі, 1 "б".

Калі ў мясе знайшлі лічынкі трыхінел, яго неабходна знішчыць. Лічынкі вельмі ўстойлівыя да розных неспрыяльных фактараў навакольнага асяроддзя. Саленне знішчае іх толькі ў паверхневых пластах мяса, яны з лёгкасцю пераносяць вэнджанне і застаюцца жыццяздольнымі ў адвараных і пасмажаных кавалках мяса.

Вельмі небяспечна набываць мясныя вырабы ў невядомых асобаў па-за пунктаў гандлю, а таксама там, дзе няма кляйма або пасведчання аб ветэрынарна-санітарнай экспертызе.

**Ганна ГІЛЬ,**
**доктар-паразітолаг Маладзечанскага ЦГіЭ.**

КУЛЬТУРА

## На 25-годдзі "Званочкаў" прыгадвалі дзяцінства і спявалі ў караоке

ВІЛЕЙКА

У Вілейскім раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі 5 снежня прайшло чарговае пасяджэнне культурна-асветніцкага аб'яднання "Світанак".

Яго цалкам прысвяцілі 25-годдзю аднаго з найстарэйшых у цэнтры калектываў – вакальнай групе "Званочкі".

Нязменны яе кіраўнік Святлана Ляшкевіч распавяла гісторыю станаўлення "Званочкаў". Выступілі не толькі юныя салісты вакальнай групы, але і выпускнікі, якія дапоўнілі сустрэчу цёплымі ўспамінамі з дзяцінства.

Гасцям мерапрыемства, вучням устаноў адукацыі горада, прапанавалі выканаць ў караоке дзіцячыя песні. Завяршылася ўсё фінальнай песняй у выкананні ўсіх удзельнікаў сустрэчы.

**Сяргей РЫЖЭВІЧ,**
**культарганізатар Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі**



Фота Дар'і БАБЕНКІ.

Сябры Маладзечанскай суполкі таварыства інвалідаў падчас вандроўкі па мясцінах, звязаных з імем Міхала Клеафаса Агінскага.

МАЮ ПРАВА

# Кожны 17-ы жыхар Беларусі мае інваліднасць

## У Маладзечне інваліды падтрымліваюць адзін аднаго ў суполцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Старшыня Маладзечанскай суполкі таварыства інвалідаў Васіль Таркан пачынае размову пра арганізацыю так: "Мы не здаёмся, мы жывём!"**

Маладзечанская суполка актыўна працуе ў розных накірунках, прапануе шмат разнастайных мерапрыемстваў. Напрыклад, сёлета сябры таварыства з'ездзілі ў экскурсію ў Санкт-Пецярбург.

### Вандроўка па мясцінах Агінскага

Адной з найбольш яркіх падзей года стала вандроўка па Смаргоншчыне, прысвечаная 250-годдзю Міхала Клеафаса Агінскага.

Краязнаўчую вандроўку зладзілі ў верасні. Наведалі былы маёнтак Агінскага, які ён пабудаваў для сябе і сваёй другой жонкі Марыі Неры.

Убачылі музейную экспазіцыю ў гонар завяршэння другога этапу рэстаўрацыі маёнтка.

Падчас вандроўкі сябры таварыства наведалі гістарычнае мястэчка Крэва, дзе ў 1385 годзе была падпісаная Крэўская ўнія паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай, якую можна лічыць першым этапам у станаўленні Рэчы Паспалітай.

На шляху з Крэва ўдзельнікі з'ездзілі ў Свята-Увядзенскі жаночы манастыр у наваколлі вёскі Багушы, які быў пабудаваны і асвечаны ў 2003 годзе. На тэрыторыі манастыра жывуць пяць манашак. Апошнім прыпынкам краязнаўчай вандроўкі стаў горад Смаргонь.

### Суполцы дапамагаюць

Для таго, каб рэалізаваць мерапрыемствы суполкі, ім дапамагаюць мясцовыя прадпрыемствы, напрыклад, "ЭНЭФ", "Струм", "МЭС", "Вежа", таварыства "Усход-агра", ніколі не адмаўляла ў дапамозе Маладзечанская музвучэльня імя Міхала Клеафаса Агінскага. Палац культуры і Мінскі абласны драматычны тэатр прапануюць бясплатныя білеты на свае мерапрыемствы. Сябры суполкі усім ім вельмі ўдзячныя.

Сваімі сіламі ладзяць спартыўныя спаборніцтвы. Адны з найбольш любімых турніры па шашках.

Кіраўніцтва суполкі імкнецца забяспечыць сябрам і гуманітарную дапамогу, якая часта вельмі выручае удзельнікаў.

Пастаянна віншуюць юбіляраў. Для 80 і 90-гадовых адзінокіх людзей падзея пераўтвараецца ў сапраўднае свята. Ёсць тыя, у каго не засталося радні, ці дзецi жывуць далёка і не могуць прыехаць павіншаваць. Такая ўвага сталых людзей часта расчульвае да слёз.

### У вёсцы інвалідам яшчэ цяжэй

– Праблемы інвалідаў асабліва моцна адчуваюцца ў вёсцы, – разважае Васіль Таркан. – Ні зручных тратуараў, ні пандусаў там звычайна няма. Як дайсці да крамы? Ім яшчэ цяжэй, чым гарадскім. Таму асабліва важны ўдзел у суполцы.

**У Маладзечанскую суполку уваходзіць каля 300 людзей з асаблівасцямі. Сярод іх каля дзесяці дзяцей. Большасць – пенсіянеры.**

У маладзечанскую суполку ўвайшлі каля 20 чалавек з Ільі Вілейскага раёна.

Уступіць у таварыства інвалідаў могуць тыя, хто мае адпаведнае пасведчанне аб любой інваліднасці ці пенсіянеры. У межах суполкі кіраўніцтва імкнецца дапамагчы сябрам неабходнымі прыладамі – вазкамі, мыліцамі, іншай гуманітарнай дапамогай, арганізаваць прыемны вольны час у кампаніі.

### Беларусь падпісала Канвенцыю аб правах інвалідаў

Сёлета Беларусь далучылася да Канвенцыі аб правах інвалідаў. Гэтую канвенцыю прыняла Генеральная Асамблея ААН у 2006 годзе, а Беларусь стала апошняй дзяржавай ў Еўропе, якая далучылася да падпісання.

Як тлумачыць Беларускае таварыства інвалідаў па зроку, спецыяльная канвенцыя не стварае адмысловых правоў. Яна сцвярджае, што інваліды маюць абсалютна тыя ж правы, што і іншыя людзі.

**У свеце 10% насельніцтва маюць інваліднасць. А асобным групам даводзіцца змагацца за сваю раўназначнасць з іншымі.**

Канвенцыя абавязвае дзяржаву прыняць меры, якія заахвочваюць правы чалавека для інвалідаў без дыскрымінацыі.

Тэкст канвенцыі можна сцягнуць з сайта rh.by.

**Аддзел інфармацыі.**

ГІСТОРЫЯ

# Мсціслаўскаму педтэхнікуму – 90 гадоў

## У ім атрымалі адукацыю многія настаўнікі нашага рэгіёна

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 48, 49.*

**У лістападзе 2015 года Мсціслаўскаму дзяржаўнаму беларускаму педтэхнікуму споўнілася 90 гадоў.**

Калі прыязджала, лепей сказаць 25 км ішла з Мсціслава дамоў на канікулы, то хадзіла на вечарынкі, танцавала і спявала там разам з усімі. Некаторыя вяскоўцы, асабліва жанчыны, спецыяльна наведвалі вечарынкі паслухаць, як спявае, і паглядзець, як прыгожа танцуе Стэфанава Надзька.

Яшчэ і модніцай яна была не апошняй. У гэтым можна пераканацца, паглядзеўшы фотаздымкі. Звернем увагу, што выхаванцы педвучылішча насілі аднолькавую форму, строгую, але бездакорную. Чорныя спадніцы, белыя сукенкі і гальштукі ўпрыгожвалі дзяўчат.

Адзін выпадак добра запомніўся мне, маламу, калі цётка Надзька і мая маці Анюта ўжо пасля вайны "гукалі вясну". Гэта было на вуліцы каля нашай хаты і каля суседскага плятня, пад нашай магутнай ліпай. Накінулі на плечы квяцістыя хустачкі і голасна на ўсю вёску спявалі абрадавыя вясновыя песні, спявалі нейк асабліва, мацней ў канцы, напэўна, так, як было трэба, як спявалі іх і раней у нашай мясцовасці. Некаторыя вяскоўцы, пачуўшы песні, прыйшлі паслухаць.

### Без падручнікаў, паперы і цяпла

Настаўнікі, якія вучылі мяне ў пачатковай школе, таксама вучыліся ў Мсціславе: Зінаіда Рыгораўна Багуева, Сямён Міхеевіч Кірпічэнка і яго жонка Надзея Піліпаўна. У суседніх вёсках жылі і працавалі ў пачатковых школах гадаванцы Мсціслаўскага педвучылішча: Рыгор Іванавіч Глазко, Марыя Уладзіміраўна Слесарава, Далецкая (?).

Шмат хто яшчэ гэтак жа скончылі Мсціслаўскі педтэхнікум ці педвучылішча, паспяхова працавалі настаўнікамі ў пачатковых школах, і многія самі вучыліся ў педінстытутах. Яны да вайны, і асабліва пасля, шмат нацярпеліся ўсяго: дрэннымі былі ўмовы жыцця і ўмовы навучання ў тагачасных вясковых беларускіх школках без падручнікаў і паперы, а часам і без цяпла зімою ў класах.

### "Васточнікі" і ахвяры бандытаў

Многія выпускнікі Мсціслаўскай навучальнай установы працавалі і ў школах Заходняй Беларусі. Іх прымушалі сюды ехаць, і яны ехалі. Шмат хто з іх трапіў у Маладзечанскую вобласць і ў Ільянскі раён у 1939-40-х гадах і адразу пасля вайны ў 1944 годзе. Яны "васточнікі" – так іх называлі тады ў Заходняй Беларусі, самааддана працавалі, пераносячы цяжкасці і непрыемнасці, бо не ўсё было добра, далёка не ўсе мясцовыя жыхары ставіліся да іх лаяльна і нават абзывалі крыўднымі слоўцамі. Часам настаўнікі былі мішэнню для мясцовых бандытаў.

Нам невядомыя прозвішчы ўсіх, хто прыехаў у Заходнюю Беларусь. Тым не менш, праведзеныя пошукі далі вынікі, хаця і сціплыя. І цяпер мы ведаем, што група выпускнікоў, якія ў 1948 годзе скончылі педвучылішча ў Мсціслаўлі, была накіравана на працу ў школы Ільянскага раёна.

У Раёўскай школе, а потым у Ілi і ў Залескіх працавала Любоў Сцяпанаўна Шышко (Тураўцова). У Залескіх працавала Антаніна Рыгораўна Шамялёва. Валянціна Давыдаўна Язерская (Крыніцына) працавала ў Малявіцкай школе, Аляксандра Раманаўна Дварцова – у Карпавічах, Ганна Дзем'янкова – у Чарвяках (Сакалоўка), Т. А. Далецкая – у Старынках, Ніна Аляксандраўна Чарнякова – у Судніках.

### Падручнікаў не выдавалі

Валянціна Давыдаўна Язерская, 1928 года нараджэння, з вёскі Гімбатаўка, што на Мсціслаўшчыне, расказала аб вучобе ў педвучылішчы. Ёй хацелася там вучыцца. Вучылася на пяцёркі, было толькі дзве чацвёркі. Падручнікаў нікому не выдавалі, бо іх не хапала, а яшчэ выкладчыкі прывучалі ўсіх навучэнцаў да бібліятэкі – туды і хадзілі штодня чытаць кніжкі. На ўроках навучэнцы мусілі пісаць канспекты і па іх рыхтаваліся да заняткаў. Урокі былі па 45 хвілін, як у школе.



Любоў Сцяпанаўна Шышко, настаўніца Залескай пачатковай школы.

Фота з архіва Любові Шышко.

Навучэнцы пераважна жылі ў інтэрнаце, а трэцякурснікі жылі ў інтэрнаце, які знаходзіўся ў будынку вучылішча.

Пры педвучылішчы існавала пачатковая школа, яна была ўласнай базай для практычнага навучання будучых настаўнікаў. Яшчэ пасылалі навучэнцаў на практыку ў іншыя школы. Напрыклад, Валя Крыніцына (Язерская) праходзіла адну працяглую практыку праходзіла ў Пустынскім дзіцячым доме, там правяла шмат урокаў, бо не было настаўніка.

Усю групу, у якой вучылася Валянціна, якраз і накіравалі на працу ў Ільянскі раён у 1948 годзе. Праўда, паехалі не ўсе, некаторыя пабаяліся, бо недзе пачулі пра існаванне ў раёне бандыцкіх груп.

Валянціна Давыдаўна сцвярджае, што дырэктарамі ў педвучылішчы ў 1945-48 гадах, калі яна вучылася там, працавалі Куляшоў і Сарочанка. І што яна і муж Анатоль Мікалаевіч удзячныя лёсу, бо, здаецца, амаль усё ў жыцці ў іх атрымалася больш-менш добра, што і дзеці вывучыліся, і ўнукі. Муж памёр у 2006 годзе. Валянціна Давыдаўна адпрацавала настаўніцай 44 гады ў Малявічах, зараз шмат часу знаходзіцца ў Мінску ў дачкі Святланы. Яшчэ крыху ёсць здароўя, таму дапамагае дачцэ, што можа, у тым ліку і на дачы. І ў Малявічы не забываецца прыязджаць, куды вельмі цягне, дзе і свой агародчык ёсць, і яго не хочацца кідаць без дагляду. Дачка Святлана пасля заканчэння Ільянскай школы паступіла ў педінстытут, працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Ілi, а потым вучылася ў аспірантуры. Працавала ў Мінску ў навукова-метадычнай установе "Нацыянальны інстытут адукацыі" Міністэрства адукацыі. Яна – аўтар падручніка "Беларуская мова" для 7 класа.

### Пэдтэхнікум забыты

На роднай Мсціслаўшчыне, дзе існаваў педтэхнікум – гэта сапраўдная святыня, як і сам старажытны Мсціслаў і яго ваколіцы, педтэхнікум у значнай ступені забыты. Нават цяпер, у сувязі з 90-годдзем, публікацый па яго пакуль не было. А калі і ўспаміналі якім часам, то пераважна ў сувязі з асобай Аркадзя Куляшова. У мясцовым музеі матэрыялы аб педтэхнікуме ёсць, але недастаткова.

Некалі ў Мсціслаўскай жаночай гімназіі вучылася Марыя Рабчынская. Пазней паспяхова спявала ў Мінскім тэатры оперы і балета ў самым пачатку яго станаўлення. Яна памерла ад сухотаў і пахаваная ў Ялце, дзе лячылася. Што аб ёй ведаюць на Мсціслаўшчыне?

Ніхто не даследаваў ні раней, ні апошнім часам гарадзішчы, якія не трэба выяўляць, яны і так добра бачны каля вёскі Ходасы-3, в. Гарадок, в. Ходасы-2. А яшчэ не даследавана і тое месца, якое знаходзіцца каля в. Ходасы-3 на Кругу, дзе ўяўна была стаянка старажытнага чалавека, пазней стаяў Божы храм, і ёсць старажытныя пахаванні. Але сюды раённая будаўнічая арганізацыя пракладала часовую дарогу і пачала капаць і развозіць па ўсім раёне жвір.

**Не выключана, што разам з ім вывозяць і чалавечыя косці.**

Нарэшце, пра шведскія курганы, якія некалі былі ў в. Старожні. Іх не раскапалі шукальнікі, іх гадоў 50 таму зруйнавалі трактарамі, каб лепей было араць поле. Толькі два з іх крыху захаваліся. Ніхто ніколі аб гэтых курганах не турбаваўся, яны нікому не былі вядомы, акрамя старожанцаў.

Пра бітву каля в. Добрае ў 1708 годзе ўсюды напісана, што рускія там перамаглі шведаў. Я звяртаюся да нашых гісторыкаў, а ці чыталі яны кнігу М. І. Кастамарава, якую ён апублікаваў у 1876 годзе "Русская история в жизнеописаниях её главнейших деятелей" , дзе на 600-й старонцы напісана: "русские остались в потере… Карл пошел за ними вслед…" . Гэта праца Кастамарава па нейкай прычыне ў сціпсах літаратуры пры апісанні падзеяў Паўночнай вайны заўсёды адсутнічае. Няўжо, каб схаваць праўду, каб падтрымліваць рускі патрыятызм? Але ж па-сапраўднаму патрыятычна тое, што праўда.

Калі адбыўся апошні выпуск у Мсціслаўскім педвучылішчы, дакладна невядома, бо, чамусьці, нідзе не напісана. З Мсціслаўскага музея па тэлефоне паведамілі, што можа зачынілі педвучылішча ў 1954 г., але няма дакументальнага пацвярджэння.

Загадчыца Мсціслаўскага гісторыка-археалагічнага музея Людміла Сяргееўна Кірыенка расказала, што яны рыхтуюць аб педтэхнікуме выставу.

**Уладзімір КАЖАМЯКА, Ільля Вілейскага раёна.**

КАЛЯНДАР

**12 СНЕЖНЯ**

**386 год** таму нарадзіўся паэт і асветнік, праваслаўны і грэка-каталіцкі дзеяч Сімяон Полацкі. Аўтар твораў "Рыфмалагіён", "Вертаград". Вызначальная рыса яго творчасці – энцыклапедызм. У аснове інтэлектуальнай дзейнасці чалавека, паводле яго меркавання – старанная праца над словам.

**100 год** таму нарадзіўся амерыканскі акцёр і спявак Фрэнк Сінатра.

**13 СНЕЖНЯ**

У **1919 годзе** адбыўся раскол Рады БНР на Найвышэйшую Раду і Народную Раду БНР.

**15 СНЕЖНЯ**

У **1934 годзе** нарадзіўся беларускі фізік, першы кіраўнік суверэннай Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч.

**16 СНЕЖНЯ**

**1388 года** – першая згадка пра Маладзечна. Першы пісьмовы ўспамін змяшчаецца ў прысяжным лісце князя ноўгарад-северскага Дзмітрыя Альгердавіча вялікаму князю Ягайлу. У 15 ст. каля сутокаў рэк Маладачанкі і Вушы збудавалі драўляны замак. У 18 ст. ён зруйнаваны.

**17 СНЕЖНЯ**

Дзень беларускага кіно. У **1924 годзе** ўтворанае прафесійнае аб'яднанне беларускіх кінематаграфістаў і фатографаў "Белдзяржкіно". Вытворчасць фільмаў была прыпыненая Другой сусветнай вайной і працягнутая ў 1946 годзе, калі студыя атрымала сваю сучасную назву. Выпускае фільмы мастацкія і тэлевізійныя, хранікальна-дакументальныя і навукова-папулярныя, анімацыйныя.

У даваенны час на студыі створаны мастацкія фільмы: "Кастусь Каліноўскі" (1928), "Да заўтра" (1929), "Гатэль "Савой" і "У агні нараджаныя" (1930), "Жанчына" (1932), "Першы ўзвод" (1933), "Двойчы народжаны" (1934), "Паручнік Кіжэ" (1934),"Палескія рабінзоны" (1935), "Дзяўчына спяшаецца на спатканне". Многія фільмы студыі атрымалі шырокае прызнанне і адзначаны прэміямі на міжнародных кінафестывалях: "Канстанцін Заслонаў", "Чырвонае лісце", "Гадзіннік спыніўся апоўначы", "Масква-Генуя", "Альпійская балада", "Вазьму твой боль", "Дзікае паляванне караля Стаха", "Людзі на балоце", "Хам" і іншыя.

**Аддзел інфармацыі.**

# Расклад руху цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін ад 13 снежня на 2015-2016 г.г.



| Маладзечна-Гудагай | | | | Гудагай-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № ц. | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання, паведамленні | № ц. | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання, паведамленні |
| 7031 | 06:25 | 07:40 | Штодз. з прыпынкамі па станцыях і пр. п. Маладзёжны | 6882 | 05:40 | 07:14 | Штодз. |
| 7033 | 07:41 | 09:11 | **Штодз. Мінск-Гудагай** Мінск-Маладз. з прып. Мінск-Паўн., Ждановічы, далей Маладз.- Гудагай б/пр.: Гаўці, Скрэсц., Каменка | 7032 | 08:20 | 09:35 | **Штодз. Гудагай-Мінск** Гудагай-Маладзечна з прып. па станцыях і пр. п. Маладзёжны, далей Маладзечна-Мінск з пр. Ждановічы, Мінск-Паўн. |
| 6881 | 08:27 | 10:24 | Штодз. | 7034 | 09:37 | 10:52 | Штодз. З пр. па станцыях Іі пр. п. Маладзёжны |
| 6883 | 12:22 | 13:18 | У рабоч. да Смаргоні | 6884 | 10:44 | 12:20 | Штодз. |
| 6885 | 13:42 | 15:19 | У выхадныя | 6886 | 13:49 | 14:45 | У рабочыя са Смаргоні |
| 6887 | 15:43 | 17:21 | Штодз. да Гудагая | 6888 | 15:37 | 17:24 | У выхадныя |
| 6889 | 17:53 | 19:31 | Штодз. | 6890 | 17:41 | 19:20 | Штодз. |
| 7035 | 19:30 | 20:48 | Штодз. з Мінска Мінск. - Маладз. з прып. Мінск- Паўн., Жданов., далей Маладз.-Гудагай з прып. па станцыях і пр. п. Маладзёжны | 7036 | 20:14 | 21:30 | Штодз. Гудагай-Мінск Гудагай–Маладз. з пр. па станцыях і пр. п. Маладзёжны, Маладзечна-Мінск з пр. Ждановічы, Мінск-Паўн. |
| 6891 | 20:32 | 22:17 | Штодз. | 6892 | 21:26 | 23:04 | Штодз. |
| **Маладзечна-Ліда** | | | | **Ліда-Маладзечна** | | | |
| | 6262 | 04:08 | 07:15 | Штодз. | | | |
| 6261 | 08:38 | 11:37 | Штодз. | | | | |
| 6263 | 12:41 | 15:33 | У выхадныя | 6264 | 08:40 | 11:45 | Штодз. |
| 6266 | 12:19 | 15:19 | У выхадныя | | | | |
| 6265 | 18:21 | 21:20 | Штодз. | 6268 | 15:48 | 18:45 | Штодз. |
| 6267 | 20:39 | 23:37 | Штодз. | | | | |
| **Маладзечна–Крулеўшчына-Полацк** | | | | **Крулеўшчына-Маладзечна** | | | |
| | | | | 6622/ 6621 | 04:37 | 07:03 | Штодз. адпр. з Глыбокага ў 04:00 |
| 6626 | 09:05 | 11:18 | Штодз. | | | | |
| | | 13:16 | Прыбыццё ў Полацк | 6683 | 15:16 | 17:43 | У выхадныя |
| 6684 | 12:41 | 14:55 | У вых. да Крулеўшч. | 6683 | 17:08 | 17:43 | У рабочыя з Вілейкі |
| 6676 | 16:14 | 16:49 | У рабоч. да Вілейкі | 6625 | 17:28 | 19:31 | Штодз. |
| 6630/ 6631 | 20:13 | 22:27 | Штодз. | | | 15:33 | Адпраўленне з Полацка |
| | | 23:06 | Прыбыццё ў Глыбокае | | | | |

| Маладзечна-Мінск | | | | Мінск-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання, паведамленні | № ц. | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання, паведамленні |
| 6102 | 04:14 | 05:59 | б/прып.: Селівонаўка | 6101 | 00:30 | 02:10 | б/прып.: Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6104 | 05:11 | 06:58 | | 6103 | 04:39 | 06:10 | б/пр.: Мінскае мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка Анусіна, Вязынка, Пралескі |
| 6108 | 05:42 | 07:29 | | 6105 | 05:20 | 07:03 | |
| 6110 | 06:45 | 08:42 | | 7033 | 06:10 | 07:28 | Мінск–Маладзечна з прып.: Ждановічы, Мінск-Паўн., далей да Гудагая, б/пр.: Гаўці, Скрэсціны, |
| 6112 | 07:33 | 09:21 | | 6107 | 06:23 | 08:15 | |
| 6114 | 08:59 | 10:47 | | 6109 | 07:20 | 09:11 | |
| 7032 | 09:38 | 10:59 | прыпынкі: Ждановічы, Мінск-Паўн. | 6111 | 08:57 | 10:43 | |
| 6116 | 09:58 | 11:53 | | 6113 | 09:52 | 11:38 | |
| 6118 | 11:12 | 12:59 | | | | | |
| 6115 | 11:33 | 13:17 | | | | | |
| 6117 | 12:48 | 14:35 | | | | | |
| 6120 | 13:02 | 14:49 | | | | | |
| 6122 | 14:57 | 16:44 | | 6119 | 14:40 | 16:25 | б/пр.: Селівонаўка |
| 6124 | 15:45 | 17:33 | | 6121 | 15:36 | 17:23 | |
| 6126 | 16:45 | 18:33 | | 6123 | 16:19 | 18:11 | |
| 6128 | 18:01 | 19:50 | | 7035 | 18:05 | 19:27 | Мінск–Маладзечна з пр.: Ждановічы, Мінск-Паўн.,далей да Гудагая з прыпынкамі па станцыях і пр.п. Маладзёжны |
| 6130 | 19:09 | 20:55 | | 6125 | 17:35 | 19:19 | |
| 6132 | 19:42 | 21:30 | | 6127 | 18:15 | 20:00 | б/пр.: Зялёнае |
| 6134 | 20:53 | 22:35 | | 6129 | 19:14 | 21:06 | |
| | | | | 6131 | 20:45 | 22:31 | |
| 7036 | 21:34 | 22:54 | Гудагай-Маладзечна з прыпынкамі па станцыях і прып. пункце Маладзёжны, далей да Мінска з прыпынкамі: Ждановічы, | | | | |
| 6136 | 22:17 | 23:55 | б/прып.: Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка | 66133 | 22:16 | 00:03 | б/пр.: Мясата, Таtаршчызна, Крыніца, Селівонаўка |

## Расклад руху цягнікоў міжрэгіянальных, міжнародных шляхоў зносін, і цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін бізнес-класа ад 13 снежня, на 2015-2016 г.г.

| № ц. | маршрут следавання | адпр. ад пачатковай станцыі | па ст. Маладзечна прыбыццё | па ст. Маладзечна стаянка | адпраўленне | прыб. на канч. станц. | дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 633Ф | Магілёў-Гродна | 19:08 | 1:10 | 2 | 1:12 | 6:13 | няцотныя |
| 623Б | Віцебск-Гродна | 18:50 | 1:10 | 2 | 1:12 | 6:13 | цотныя |
| 677 | (п/в Масква) Мінск-Гродна | 1:30 | 2:44 | 4 | 2:48 | 8:12 | штодзённа |
| 77Щ | Масква-Гродна | 16:36 | 3:46 | 3 | 03:49 | 08:39 | па днях |
| 148Ч | Калінінград-Масква | 17:29 | 3:00 | 2 | 03:02 | 15:30 | па днях |
| 29Ч | Масква-Калінінград | 17:20 | 4:21 | 3 | 4:23 | 14:00 | штодзённа |
| 626Б | Віцебск-Мінск | 21:33 | 4:23 | 28 | 4:51 | 6:26 | штодзённа |
| 360Ч | Калінінград-Адлер | 18:59 | 5:00 | 2 | 5:02 | 8:41 | сер., суб. |
| 79Ч | С. Пецярбург-Калінінград | 16:13 | 5:41 | 18 | 5:59 | 15:50 | па днях |
| 88РБ | Рыга-Мінск | 19:20 | 6:28 | 28 | 6:56 | 8:19 | няцотныя |
| 673Б | Мінск-Гродна | 7:01 | 8:03 | 2 | 8:05 | 11:42 | штодзённа |
| 804 | Вільня-Мінск | 6:20 | 8:48 | 2 | 8:50 | 9:50 | штодзённа |
| 805Б | Мінск-Вільня | 8:00 | 8:58 | 2 | 9:00 | 9:30 | штодзённа |
| 801Б | Мінск-Вільня | 8:10 | 9:13 | 2 | 10:51 | 10:59 | субота, нядзеля |
| 147Ч | Масква-Калінінград | 22:38 | 9:39 | 2 | 09:41 | 19:14 | па днях |
| 693Б | Полацк-Мінск | 6:31 | 9:58 | 37 | 10:35 | 11:35 | пятніца |
| 630Б | Гродна-Мінск | 6:26 | 10:25 | 2 | 10:27 | 11:29 | штодзённа |
| 803Б | Мінск-Вільня | 11:10 | 12:10 | 2 | 12:12 | 12:57 | штодзённа |
| 808Т | Вільня-Мінск | 14:58 | 17:46 | 2 | 17:48 | 18:45 | штодзённа |
| 629Б | Мінск-Гродна | 16:53 | 17:59 | 2 | 18:01 | 22:03 | штодзённа |

| № ц. | маршрут следавання | адпр. ад пачатковай станцыі | па ст. Маладзечна прыбыццё | па ст. Маладзечна стаянка | адпраўленне | прыб. на канч. станц. | дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 674Б | Гродна-Мінск | 15:18 | 18:58 | 2 | 19:00 | 20:02 | штодзённа |
| 693Б | Мінск-Полацк | 17:12 | 18:22 | 28 | 18:50 | 22:28 | пятніца |
| 80Ч | Калінінград-С. Пецярбург | 10:18 | 20:22 | 14 | 20:36 | 11:09 | па днях |
| 806Т | Вільня-Мінск | 18:12 | 20:40 | 2 | 20:42 | 21:42 | штодзённа |
| 807Б | Мінск-Вільня | 19:50 | 20:52 | 2 | 20:54 | 21:20 | штодзённа |
| 634Б | Гродна-Магілёў | 15:51 | 21:20 | 4 | 21:24 | 5: 00 | няцотныя |
| 624Б | Гродна-Віцебск | 15:51 | 21:20 | 3 | 21:24 | 4:50 | цотныя |
| 625Б | Мінск-Віцебск | 20:37 | 21:51 | 29 | 22:20 | 6:00 | штодзённа |
| 78Б | Гродна-Масква | 16:53 | 21:50 | 4 | 21:54 | 09:32 | па днях |
| 359С | Адлер-Калінінград | 20:53 | 22:53 | 2 | 22:55 | 9:02 | ад 04/10 серада, нядз. |
| 30Ч | Калінінград-Масква | 13:44 | 23:19 | 3 | 23:21 | 9:38 | штодзённа |
| 87БР | Мінск-Рыга | 22:25 | 23:33 | 29 | 00:02 | 9:30 | цотныя |
| 802Т | Вільня-Мінск | 20:05 | 23:48 | 2 | 23:50 | 0:49 | субота, нядзеля |
| 772 | Маладзечна-Мінск | 06:38 | 07:37 | | | | штодзённа |
| 774 | Маладзечна-Мінск | 20:27 | 21:25 | | | | нядзеля |
| 773 | Маладзечна-Мінск | 18:55 | 19:50 | | | | штодзённа |

**Цягам перыяду дзеяння графіка магчымыя змяненні. Тэлефоны чыгуначнага вакзала ст. Маладзечна для даведак: (80176) 74-24-23, 105.**

# Гісторыя двух дамоў з цёплай падлогай і падземным ходам

МАЛАДЗЕЧНА

**Каля аўтавакзала ў адным двары ёсць два дамы. Сёлета аднаму з іх спаўняецца 90 гадоў, другому – 88.**

Адрас гэтых дамоў: вуліца Таўлая, 5 і Лібава-Роменская, 67.

Пра іх гісторыю расказвае краязнаўца **Уладзімір Садоўскі.** А пра тое, як столь у пакоі апусцілася ад 4,1 да 3,2 метра распавядзе жыхар дома па Лібава-Роменскай **Аляксандр Казлоў**, дзяцінства якога прайшло ў гэтым двары. Пасля вайны ў дом па Таўлая пераехала яго бабуля, тут нарадзіўся яго бацька, які потым са сваёй сям'ёй пасяліўся на Лібава-Роменскай.



Фота Наталлі ТУР

**У двары дома па вуліцы Таўлая бавяць час цяперашнія жыхаркі Лібава-Роменскай: злева направа Ульяна, Ангеліна, Лола і Міла. Дзяўчатам вельмі падабаецца бавіць час на арэлях, турніках і дахах скляпоў, якія маленькія модніцы выкарыстоўваюць як подыум.**

### Дом захаваўся ў першапачатковым выглядзе

Уладзімір Садоўскі цікавіцца архітэктурай Маладзечна пачаў яшчэ ў 2011 годзе, спачатку раён Гелянова зацікавіў Уладзіміра, а затым ужо ўся міжваенная архітэктура.

– А пра дом на Таўлая памятаю з дзяцінства, памятаю яго высокі дах з комінамі, якія былі бачныя з пасадачнай платформы аўтавакзала.

Падрос і пра гэты дом збіраў звесткі ў архіве.

Палякі ў 20-х гадах будавалі адміністрацыйныя будынкі: старосты, управы, паштовыя і банкаўскія аддзяленні. Узводзілі польскія школы і гімназіі. Але самую пільную ўвагу польскія ўлады надавалі ведамаснаму жыллю для палякаў, якія перасяляліся з заходніх рэгіёнаў Польшчы.

Спецыяльна для польскіх адмыслоўцаў у беларускіх гарадах і мястэчках будаваліся і шматкватэрныя дамы. Жыллё ў іх прызначалася для сем'яў афіцэраў і сяржантаў Войска Польскага, а таксама сем'яў службоўцаў Міністэрства ўнутраных спраў.

У Маладзечне да сённяшняга дня захавалася каля дзясятка такіх шматкватэрных дамоў, пабудаваных палякамі ў 20-х, 30-х гадах 20 стагоддзя. Адзін з такіх дамоў – якраз гэты дом №5 на вуліцы Таўлая.

Ён пабудаваны ў 1925 годзе па праекце архітэктара **Юльяна Лісецкага** для сем'яў афіцэраў корпуса аховы памежжа і службоўцаў Маладзечанскай гміны.

Гэта было ведамаснае жыллё вышэйшага класа. У доме знаходзілася 14 кватэр: тры чатырохпакаёвыя, тры трохпакаёвыя і восем двухпакаёвых. У кожнай прадугледжваліся памяшканні для прыслугі і ўласнае каміннае ацяпленне.

Дом пабудаваны "па матывах" закапанскага стылю, модным сярод архітэктараў міжваеннай Польшчы.

– Чаму "па матывах"? Проста я доўгі час сам усё называў "закапанскім стылем", – кажа Уладзімір, – а потым разабраўся, што закапанскі стыль адносіцца да драўляных дамоў. Такі дом, праўда, сапсаваны сайдынгам, можна пабачыць у Маладзечне каля службовага ўвахода на стадыён. Дом гэты належыць Маладзечанскай бальніцы.

Лічылася, што гэты стыль найбольш блізка перадае нацыянальныя рысы польскай архітэктуры.

Першапачаткова ў доме былі скразныя пад'езды, але пазней дзверы, якія выходзяць на бок вуліцы Таўлая, замуравалі.

Магчыма, зрабілі гэта ў паваенныя гады, калі прасторныя кватэры польскіх службоўцаў былі перабудаваны ў тыповыя савецкія "камуналкі".

Цяпер на кожнай пляцоўцы ў доме зноў па дзве кватэры.

– Адзінае, чаго шкада, што наўрад ці ў гэтым доме жыве хтосьці з нашчадкаў тых, каго засялілі сюды ў 20-х гадах.

З жыхаром гэтага дома Уладзімір размаўляў, калі прыходзіў фатаграфаваць дом для свайго архіва:

– Мясцовы жыхар, што сядзеў на лавачцы, расказваў пра каменныя падмуркі дома, якія не маглі газавікі прабіць, каб трубу з газам у падвал правесці – давялося твесці па сцяне. Расказаў, што калі мянялі кроквы на даху падчас дажыначнага капрамонту, то аказалася, што старыя кроквы 1925 года ў добрым стане і яшчэ б 100 гадоў прастаялі, але грошы выдаткаваныя, таму трэба дах мяняць.

Пра дом на Лібава-Роменскай, які пабудаваны ў 1927 годзе, расказ Уладзіміра больш сціплы.

– Я ведаю, што ў ім жылі супрацоўнікі старостава. Пра старостава ведаю, што яго планы і праект 1920-х захоўваюцца ў нашым гарадскім архіве – і гэта, бадай, адзіны архітэктурны дакумент з тых часоў. А яшчэ, калі верыць карце, гэты дом быў большы.

Уладзімір параўноўваў здымкі горада з вышыні 1944 года і сучасныя. На гэтых здымках можна ўбачыць, што чамусьці было знесенае левае крыло.

### Сярод мясцовых хадзіла легенда пра падземны ход

Маладзечанец Аляксандр Казлоў нарадзіўся ў гэтым доме, і лёс яго да сённяшняга дня звязаны з двума дамамі: з домам па вуліцы Таўлая і домам па вуліцы Лібава-Роменскай, 67.

– А што, двор жа адзін. З першых успамінаў пра двор памятаю, што дамашнія нарыхтоўкі і бульбу захоўвалі ў бетонным зброевым складзе, які знаходзіўся непадалёк ад дома. Тут жа з хлопцамі гулялі ў вайну.

Сям'я бабулі Аляксандра Казлова пераехала ў дом па Таўлая ў 1950-х гадах, калі тут былі камунальныя кватэры.

– Я ж з ранняга дзяцінства памятаю дзвюх суседак, пра якіх бабуля расказвала, што яны засяліліся ў гэты дом адразу пасля вайны. Яны былыя франтавічкі, так іх і запомніў, што сядзелі ў двары і курылі "Беламор". А суседзяў, што жылі ў гэтым доме да вайны, я і не памятаю.

Пра дом на Лібава-Роменскай у Аляксандра ўспамінаў значна больш.

Што датычыцца перабудовы дома, то Аляксандр памятае, як

**Столь з вышыні 4 метраў 10 сантыметраў апускалі да 3 метраў 20 сантыметраў.**

– Хаця дакладней будзе сказаць, падымалі падлогу. Ну а нашто такія высокія столі? Пасля таго, як паднялі падлогу, аказалася, што вокны практычна ляжаць на ёй, давялося іх падымаць.

Памятаю, як мучыліся будаўнікі, якія не маглі зрабіць нармальны аконны праём – цэгла не паддавалася, настолькі яна моцная. І таўшчыня сцен большая за метр.

Над словамі пра тое, што дом несучасны, Аляксандр толькі смяецца:

– А многія могуць пахваліцца тым, што ў іх новых кватэрах падлога з падагрэвам? А мы можам. Трубы з гарачай вадой пракладалі такім чынам, што яны ідуць пад падлогай. Таму, калі ёсць гарачая вада, у кватэры падлога заўсёды цёплая.

Яшчэ адна цікавая гісторыя, якую памятае Аляксандр, звязаная з падземным ходам, які быццам злучаў старостава і дом па Лібава-Роменскай.

– Калі рамантавалі водаправод, у падвале рабочыя знайшлі вялізазны камень-валун. Як ён трапіў у сутарэнні, адказу на гэтае пытанне не ведае ніхто. Кажуць, тут раней быў падземны ход.

– Але прывіды мінулага, – жартуе Аляксандр, – нас не пераследуюць.

### Жыхары дома па Лібава-Роменскай змагаюцца за гаспадарчыя пабудовы ў двары

Жыхары дома №67 па вуліцы Лібава-Роменскай абурыліся з абвесткі, якая з'явілася на пад'ездзе. У ёй паведамлялася, што цягам 12 дзён жыхары абавязаныя вызваліць гаспадарчыя памяшканні ў двары свайго дома, бо яны падлягаюць зносу.

У доме, які быў пабудаваны ў 1926 годзе, не прадугледжаныя ні балконы, ні падвалы. Сваі "скарбы" жыхарам даводзілася захоўваць у двары, у гаспадарчых пабудовах.

У 2004 годзе старыя драўляныя памяшканні замянілі на цагляныя, яны ў добрым стане, але ўлады прынялі рашэнне іх знесці.

Жыхарка гэтага дома **Жанна Вярбоўская** расказвае, што яны з суседзямі пяць гадоў дамагаліся, каб паставілі гэтыя пабудовы, бо старыя прыйшлі ў заняпад. Тады ўлады пайшлі насустрач.

– Цяпер нам кажуць, што на гэтыя пабудовы няма дакументаў. Як няма, калі ў мяне ўсе паперы на руках? – спадарыня Жанна паказвае нам афіцыйныя дакументы, звязаныя з узвядзеннем свіранаў у двары.

Начальнік ЖРЭУ № 2 **Валер Віткоўскі** патлумачыў, што такая мера абумоўленая тым, што зямля ў двары дома не адведзеная пад пабудову.

– Аддзел архітэктуры Маладзечанскага райвыканкама знайшоў хібы ў заканадаўстве, калі ўзнікла пытанне па прыватызацыі жылля. Аказалася, што ў 2004 годзе, калі былі пабудаваныя гэтыя памяшканні, па дакументах яны былі не зарэгістраваныя і не ўведзеныя ў эксплуатацыю.

Валер Віткоўскі ўдакладніў, што гэтае пытанне знаходзіцца на стадыі разглядання. Цяпер ЖРЭУ №2 і жыхары дома чакаюць рашэння выканкама:

– Калі выканкам прыме рашэнне аформіць гэтыя пабудовы, а не зносіць іх, я буду толькі рады. Паверце, я зусім не хачу пазбаўляць жыхароў іх маёмасці, – падагульніў Валер Віткоўскі.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

ХАКЕЙ

## "Дынама-Маладзечна" абыграла па булітах сталічнае "Юнацтва"

МАЛАДЗЕЧНА

**Мінчане прыехалі ў Маладзечна 8 снежня пасля упэўненай перамогі над гродзенскім "Нёманам" з лікам 7: 2.**

Праўда, да гэтай вікторыі яны тройчы запар прайгравалі. Дынамаўцы ж мінімальна саступілі "Гомелю" (0:1).

Таму ў паядынку "бела-сінія" былі поўныя рашучасці рэабілітавацца перад роднымі заўзятарамі. "Юнацтва", вядома, сапернік не з лёгкіх, але "зубры" заўсёды па асабліваму настройваюцца на матчы супраць сталічнай дружыны.

Стартавыя хвіліны сустрэчы засталіся за гасцямі. Мінчане часцей знаходзіліся ў нашай зоне, але даводзілі справу да небяспечных кідкоў рэдка...

За тры секунды да першага перапынку госці застаюцца ў падвойнай меншасці.

Пакаралі мінчан "зубры" ў дэбюце другога перыяду. **Яўген Нагачоў** засмучае **Аляксандра Барадулю** магутным кідком ад сіняй лініі – 1:0. А бліжэй да канцоўкі **Дзмітры Абмражэйчык** выдатна згуляў на дабіванні і прымусіў у другі раз радавацца трыбуны.

Такое развіццё падзей мінчан, вядома, не задавальняла. Яны кінуліся усімі сіламі атакаваць і адну шайбу адквіталі.

Мінімальная перавага дынамаўцаў перад заключнай трэцяю матчу пакідала шанцы гасцям як мінімум на нічыю. Сапсаваць планы сталічнай дружыне гаспадары маглі бліжэй да сярэдзіны перыяду, калі атрымалі чатыры хвіліны большасці – не атрымалася. Затым была бойка **Паўла Печура** і **Крысціяна Хенкеля**. Даведацца, хто ж аказаўся мацнейшым, не дазволілі суддзі.

Затое дазволілі мінчанам не па правілах зраўняць лік за дзве хвіліны да канца трэцяга перыяду. Гулец гасцей знаходзіўся ў плошчы варот у момант іх узяцця. Трэнерскі штаб папрасіў арбітраў пагладзець паўтор, але яны былі непахісныя ў сваім рашэнні. 2:2 – нічыя ў асноўны час.

Авертайм таксама не выявіў мацнейшага. Вызначылі пераможцу ў серыі пасляматчавых штрафных кідкоў. Фартуна была на баку дынамаўцаў – вырашальны кідок на рахунку **Дзмітрыя Амбражэйчыка**.

**Максім СТАЯН,**
**прэс-служба**
**"Дынама-Маладзечна".**




Даведацца, хто аказаўся мацнейшым у бойцы, не дазволілі суддзі.




Вадзім Драбышэўскі ў абласных спаборніцтвах стаў бронзавым медалістам.

ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА

# 13-гадовы цяжкаатлет з Ашмянаў: далей будуць толькі перамогі

АШМЯНЫ

**Каманда ашмянскіх атлетаў вярнулася з абласных спаборніцтваў з трэцім і першым месцамі.**

У канцы лістапада ў Барысаве праходзіла першынство Мінскай вобласці па цяжкай атлетыцы на прызы чэмпіёна алімпійскіх гульняў **Валерыя Шарыя**.

У катэгорыі да 50 кілаграмаў трэцяе месца заняў ашмянец **Вадзім Драбышэўскі.**

### Цяжкай атлетыкай пасляхова займаюцца і дзяўчаты

Вадзіму Драбышэўскаму 13 гадоў. Ужо два гады ён займаецца цяжкай атлетыкай. Прывёў у спартыўную залу Вадзіма сябар.

– Я прыйшоў у залу, калі дакладна ведаў, што хачу стаць алімпійскім чэмпіёнам як **Андрэй Арамнаў.** І не разумею, як можа не падабацца гэты від спорту. Цяжкая атлетыка ўмацоўвае ўсе мышцы.

Цікава, што трэніруе Вадзіма жанчына – **трэнер Анастасія Казлоўская.**

– Мне з ёй працуецца вельмі хораша. Анастасія павіншавала мяне з трэцім месцам першая, пахваліла мяне. І не трэба здзіўляцца таму, што жанчыны і дзяўчаты паказваюць у цяжкой атлетыцы добрыя вынікі. У нашай секцыі займаюцца і дзяўчаты. І ўсе яны сімпатычныя.

**– Вадзім, а чаму трэцяе месца? Чаго не хапіла для перамогі?**

– Ай, я зрабіў усё як трэба. Проста маімі сапернікамі былі хлопцы, якія займаюцца цяжкай атлетыкай болей па часе і яны старэйшыя за мяне. Але гэтае трэцяе месца – апошняе, далей будуць толькі перамогі!

Другі ашмянскі атлет **Аляксандр Яшэўскі** ў вазе да 56 кілаграмаў прынёс камандзе золата.

Цяпер Вадзім, Аляксандр і іх каманда рыхтуюцца да наваградніх спаборніцтваў па цяжкай атлетыцы. Яны пройдуць у Лідзе з 16 па 18 снежня.

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

## У пяцёрцы лепшых суддзяў Міншчыны двое маладзечанцаў

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта паведамляе Федэрацыя футбола Мінскай вобласці.

Пяцёрку лепшых суддзяў і памочнікаў Мінскай вобласці ў сезоне 2015 вызначыў суддзейскі камітэт Федэрацыі.

У пяцёрцы аказаліся **Сяргей Матусевіч** і **Ігар Мацюшонак** з Маладзечна.

## У валейболе ў Вілейцы перамог "Энергазбыт"

ВІЛЕЙКА

Скончыўся чэмпіянат Вілейскага раёна па валейболе сярод мужчынскіх камандаў.

Удзельнічалі ў ім пяць камандаў. Праводзіўся чэмпіянат у два кругі.

Перамагла каманда "Энергазбыт". На другім месцы – Вілейскае ЖКГ, на трэцім – райаддзел па надзвычайных сітуацыях, паведаміў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" **Аляксандр Вайда**.

## Мядзельчане – у прызёрах адкрытай аматарскай валейбольнай лігі

МЯДЗЕЛ

Каманда "Мядзел ФАЦ" 7 снежня праводзіла чарговы матч другога дывізіёна чэмпіянату адкрытай аматарскай валейбольнай лігі Мінска. Мядзельскія валейбалісты выйгралі ў каманды "Зеніт" са сталіцы. І зноўку з лікам 3:1 па партыях.

– Гульня склалася нялёгка. Мо таму, што ў нас быў доўгі перапынак у гульнях, – расказвае капітан каманды **Андрэй Русак**. – Першую партыю выйгралі лёгка, другую так жа лёгка прайгралі. Але ўсё ж дзве наступныя выйгралі.

Чэмпіён у другім дывізіёне ўжо вядомы – каманда "558 АРЗ".

Мядзельчане ўжо забяспечылі сабе трэцяе месца. Але на фінішы маюць шанцы быць і другімі. Тут не ўсе залежыць ад мядзельскіх валейбалістаў, але і ад таго, як правядзе дзве свае астатнія гульні іх канкурэнт у барацьбе за "срэбра", "БГУФК-2".

## Смаргонцы перамаглі, астраўчане прайгралі

АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

Прайшоў другі тур чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе. У групе "Поўнач" 5 снежня "Вілія" са Смаргоні гуляла ў гасцях з "Навагрудкам". Смаргонцы выйгралі з лікам 9:6. Тройчы ў іх забіў **Максім Яблонскі**.

"Меліяратар" з Астраўца дома прайграў "Легендзе" з Іўя 7:11.

У першым туры 29 лістапада "Ашмяны" былі мацнейшыя за "Меліяратар" з Астраўца 5:3.

Лідзіруе ў гэтай групе з шасцю ачкамі каманда "Легенда". Далей размясціліся "Вілія" і "Ашмяны". У абедзвюх камандаў – па тры ачкі. Але яны правялі на гульню менш, чым астатнія каманды.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Святлана Капуцкая: “Я была кандытаркай і раптам стала паэткай”**

Поспехаў творчых і ўсялякіх іншых! Вось якія неардынарныя цікавыя людзі жывуць побач з намі. ***Эва.***

**За кастрычнік з нашага рэгіёна на Міншчыне найвышэйшы заробак быў на Маладзечаншчыне**

Падкажыце, а дзе такая з/п на Маладзечаншчыне? У каго не спытайся – 3 мільёны, ну, 3,5 мільёны, не вышэй. ***Sh@m@n.***

**“Кіна не будзе”. Выпуск беларускіх тэлевізараў дасягнуў нулявой адзнакі**

Мяркую, што сучасныя LED тэлевізары больш трывалыя і надзейныя, чым тэлевізары з "трубкай", знятыя з вытворчасці ў 2012 годзе. За гэты час насельніцтва абнавіла тэхніку і попыт зменшыўся. Таксама вялікі імпарт таннай кітайскай тэхнікі. "Віцязю" і "Гарызонту" - капут. ***Nifeus.***

### АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ



Фота забяспечана Святланай МАЦКЕВІЧ.

**У Вілейскім дзяржаўным каледжы 3 снежня адбылося мерапрыемства “Энергія маладосці ў прафесіі і творчасці”. На ім адзначылі актыўных удзельнікаў і пераможцаў розных праектаў. Узнагароджанне суправаджалася яркімі нумарамі мастацкай самадзейнасці.**

### ТЭАТР

# Мінскі абласны драматычны тэатр



*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**Увага! Дзеці і бацькі!** Толькі ў нас – у абласным драматычным тэатры ці не хочаце ўбачыць навагоднюю аванцюрную КАЗКУ ДЛЯ ЎСЁЙ СЯМ'І – “**Мех з сюрпрызам, альбо Як лясная братва Новы год сустракала**”.

Героі казкі – самыя крутыя лясныя насельнікі: Лясун, Кікімара, Салавей-разбойнік, Гарыныч таксама хочаць атрымаць ад Дзеда Мароза падарункі! Паглядзець казку і паўдзельнічаць у ёй запрашаем

**ад 19.12.2015**
**да 30.12.2015**
у 10:30 і 13:00.

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**“Камедыя”** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў *К.Марашэўскага і Ф.Аляхновіча*)
15 снежня – 19:00

“**Старая зайчыха**” (меладрама) , *Мікалай Каляда*
17 снежня – 19:00

Прэм'ера! “**Афінскія вечары**” (сучасная гісторыя), Пётр Гладзілін
18 снежня – 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў
***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***
Тэл. для даведак: **75-24-17** (каса), **75-29-16** (намеснік дырэктара). E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659



### СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 2 | | | | | 4 |
| 7 | | | 9 | | | | 2 | |
| | | | 5 | | 8 | 3 | 7 | 1 |
| | | 6 | | | | | | 2 |
| 2 | 1 | | | | | | 6 | 3 |
| 5 | | | | | | 8 | | |
| 6 | 2 | 1 | 7 | | 9 | | | |
| | 3 | | | | 2 | | | 6 |
| 8 | | | | | 3 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



### КІНО

# Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя, сямейны “**SOS, Дзед Мароз ці ўсё споўніцца**” (Расія, 2015)
11 снежня – у 17:50
12 снежня – у 12:50
13 снежня – у 14:20
16 снежня – у 17:10
Цана білета: 25 000 рублёў

Прыгоды, баявік, драма “**У сэрцы мора**” (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11 снежня – у 22:00
12 снежня – у 14:50
12 снежня – у 19:30
13 снежня – у 16:20
13 снежня – у 21:00
14 снежня – у 18:30
15 снежня – у 21:20
16 снежня – у 19:10
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Фэнтэзі “**Ён – дракон**” (3D, Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12 снежня – у 17:20
13 снежня – у 12:10
15 снежня – у 17:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Прыгоды, фэнтэзі, камедыя “**Старшылкі**” (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11 снежня – у 19:50
12 снежня – у 22:00
13 снежня – у 18:50
14 снежня – у 21:00
15 снежня – у 19:10
16 снежня – у 21:40
Цана білета: 45 000 – 50 000 рублёў

Прэм'ера! Фэнтэзі, прыгоды, баявік “**Зорныя войны: Абуджэнне сілы**” (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
17 снежня – у 18:00
17 снежня – у 21:00
Цана білета: 65 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, сямейны “**Рыф**” (ЗША, Паўднёвая Карэя, 2012, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
12 снежня – у 17:00
13 снежня – у 15:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя “**Уверх нагамі, ці недзе ў гэтым лесе**” (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
11, 13 снежня – у 17:30
12 снежня – у 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя “**КінаДзяцінства. Ін і Яна**” (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
12 снежня – у 12:00
13 снежня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя “**Што і чаму?**” (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
12 снежня – у 14:00
13 снежня – у 12:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Жахі “**Ваўчынае логава**” (ЗША, 2013, пасля 16 год)
11, 13 снежня – у 19:30
12 снежня – у 21:00
14 снежня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя “**Суперфарсаж**” (ЗША, 2014, пасля 16 год”
11 снежня – у 21:00
12 снежня – у 19:00
13 снежня – у 21:30
14 снежня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер, прыгоды “**Чорнае мора**” (ЗША, 2014, пасля 16 год)
15 снежня – у 18:30
16 снежня – у 21:00
17 снежня – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя “**8 новых спатканняў**” (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
15 снежня – у 21:00
16 снежня – у 18:30
17 снежня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

# Кінатэатр “Мір”, Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя “**Асабліва небяспечная**” (ЗША, пасля 16 год)
11 снежня – у 17:50
12 снежня – у 18:00
13 снежня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя “**Суперфарсаж”** (ЗША, пасля 16 год)
11 снежня – у 19:30
13 снежня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя “**КінаДзяцінства. Мікрапаліс**” (Расія, без узроставых абмежаванняў)
12 снежня – у 12:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя “**Незвычайнае падарожжа Серафімы**” (Расія, без узроставых абмежаванняў)
12 снежня – у 13:40
13 снежня – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя “**Вясёлыя біяграфіі**” (Расія, без узроставых абмежаванняў)
12 снежня – у 15:00
13 снежня – у 12:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя “К**аханне ад ўсіх хвароб**” (Францыя, пасля 16 год)
16 снежня – у 17:50
17 снежня – у 19:50
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер “**Зыходны код**” (ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
16 снежня – у 19:50
17 снежня – у 17:50
Цана білета: 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя “SOS, Дзед Мароз і ўсё збудзецца” (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
11, 16 снежня – у 20:00
12 снежня – у 16:30
13 снежня – у 18:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі “**Ён – дракон**” (3D, Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11 снежня – у 20:00
12, 13 снежня – у 13:00
13 снежня – у 16:30
16 снежня – у 18:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя “**Перапалох у джунглях**” (3D, Паўднёвая Карэя, Мексіка, без узроставых абмежаванняў)
12, 13 снежня – у 15:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Баявік, драма, прыгоды “**У сэрцы мора”** (3D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12 снежня – у 18:30, 20:40
13 снежня – у 20:30
17 снежня – у 20:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Фэнтызі, камедыя, “Жахі” (2D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
17 снежня – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў
Тэлефон для даведак:

Тэл. **8(01771) 5-68-59.**

### ГАРАСКОП 11-16 СНЕЖНЯ



**Авен.** У пачатку тыдня зоркі рэкамендуюць звярнуць пільную ўвагу на здароўе. Было б нядрэнна паехаць куды-небудзь на некалькі дзён адпачыць.



**Цялец.** На гэтым тыдні здзейсніцца ўсё задуманае. Толькі не трэба ўзрушацца на працы. У канцы тыдня чакайце выгаднай дзелавой прапановы.



**Блізняты.** На гэтым тыдні вас будуць перапаўняць эмоцыі Пастарайцеся знайсці сферу прымянення энергіі, якая віруе ў вас, не дазваляйце эмоцыям кіраваць вамі. Лёс дась шанец дасягнуць мэты – не ўпусціце яго.



**Ракі.** Нечаканыя падзеі могуць зрабіць ваша жыццё нашмат цікавейшым. У вас ёсць добрыя шанцы набыць нешта новае і карыснае. Хутчэй за ўсё, у сераду вам варта будзе зрабіць выбар, ад якога будуць залежаць змены ў вашым лёсе.



**Леў.** Калі вы прыкладзеце намаганні, у вас атрымаецца рэалізаваць свае старыя праекты. Не выключана, што нехта паспрабуе паўплываць на ход падзей, умешвацца ў вашы справы. Захоўвайце спакой – зоркі на вашым баку.



**Дзева.** Прысвяціце тыдзень кар'еры. Лёс прынясе вам нямала прыемных сюрпрызаў, ваша задача – быць у патрэбны час у патрэбным месцы. У чацвер будзьце стрыманымі.



**Шалі.** Будзьце рэалістамі, калі складаеце доўгатэрміновыя планы, улічвайце пазіцыю тых, каго яны закранаюць. Самыя складаныя справы пакіньце на аўторак.



**Скарпіён.** Рыхтуйцеся: можа надыйсці новы этап жыцця. Рамантычныя адносіны могуць цалкам перакуліць ваш погляд на навакольны свет. Шчаслівы дзень для вас – чацвер.



**Стралец.** Вам варта быць цярплівымі. Але ў канцы тыдня, магчыма, давядзецца паказаць эмоцыі. Паспрабуйце прабачыць чалавеку, які чакае гэтага некалькі год.



**Казярог.** У канцы тыдня будзьце асцярожныя з грашыма. Рашэнні прымайце толькі ўзважана.



**Вадалей.** Вас чакаюць адкрыцці, але, на жаль, не ўсе могуць быць аднолькава прыемныя. Трымайце сябе ў руках і стаўцеся да ўсяго па-філасофску. Уважліва разглядайце фінансавыя пытанні.



**Рыбы.** На гэтым тыдні адкіньце парады, рызыкуйце. У сераду могуць быць перамены ў асабістым жыцці. Калі варта наведаць доктара, зрабіце гэта ў чацвер.

**Аліна ЗОРНАЯ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

## ● НАДВОР'Е

**12 снежня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +0 / +1 | | +1 / +2 | | +2 / +4 | | +0 / +2 | |
| | 746 | ↑ 5 | 740 | → 2 | 738 | → 2 | 744 | ↓ 3 |
| **Вільня** | +1 / +1 | | +1 / +2 | | +4 / +3 | | +1 / +2 | |
| | 752 | ↗ 6 | 745 | ↗ 3 | 747 | → 4 | 755 | ↓ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.24
Захад 16.48
Даўжыня дня 7.24

Усход 9.40
Захад 18.17
Квадра 1




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**НАРАЧ (КУПА)**

Мінімальная тэмпература -20,3 °C у 1977 годзе
Максімальная тэмпература +8 °C у 2000 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,3 мм у 1980 годзе
Назіранні за 25 год. Паводле meteoinfo.by

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

# Што вы захоўваеце на балконе і ў падвале?



**Аляксандр Кісель, фатограф, Маладзечна:**
– Асабіста ў мяне падвал – сховішча каробак ад тэхнікі, аб'ектываў, фотапаратаў, старых дзіцячых рэчаў, якія, магчыма, спатрэбяцца будучаму дзіцяці. Таксама там, пэўна, як і ва ўсіх, стаяць закаткі, санкі, бульбачка. На балконе – аналагічна.



**Вераніка Бяльковіч, у адпачынку па доглядзе за дзіцем, Вілейка:**
Жывём у прыватным доме, таму балкона няма. У падвале захоўваем бульбу, нарыхтоўкі на зіму – як, пэўна, і многія робяць.



**Вольга Мацюшонак, візажыст-стыліст, Маладзечна:**
– Мы кватэру наймаем, таму падвалам не карыстаемся. І на балконе не зробіш так, як хацелася. А каб была уласная кватэра, то свой балкон не хацелася б застаўляць рэчамі.Каб зімой хадзіць туды не холадна было, ды і пасядзець вечарам, пагаварыць можна было.



**Улад Байко, студэнт, Маладзечна:**
– Усё, што неабходна там захоўваецца. Дапусцім, ровар. Ён займае шмат месца. Таму стаіць на балконе ці ў падвале. Гародніну захоўваем у падвале, як і большасць жыхароў. Ну і іншыя, неабходныя рэчы.



**Ягор Пінкевіч, праграміст:**
– Жыву ў асноўным на найманых кватэрах, таму і захоўваць асабліва няма чаго. А сваякі ў Маладзечне на зіму ставяць на балкон слоікі з варэннем, кампотам... У падвале захоўваюць прадукты тыпу бульбы, некаторыя аўта- і мотазапчасткі. Старыя рэчы, якія ў прынцыпе і не патрэбныя, але шкада іх выкідваць.



**Аляксандр Стурліс, энергетык, Смаргонь:**
– Жыву ў прыватным доме, так што няма ні балкона, ні падвала. А каб жыў у шматпавярхоўцы і там балкон вялікі быў, то можна было і столік паставіць для чаявання, і экзатычныя расліны.

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Ветэрынар – не чараўнік. Па тэлефоне дыягназ паставіць не можа. Ветэрынарны доктар Людміла Гірдзюк дае карысныя парады тым, хто трымае дома катоў.**

## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

– Падсудны, абяцаеце вы гаварыць праўду, толькі праўду і нічога, акрамя праўды?
– Клянуся, – тоўстая жанчына з вусікамі.

***

Мужык спыняе таксі:
– На Барадзінскую, калі ласка.
– Вуліцу?
– Не, блін, бітву.
Спазняюся трошкі.

***

– Доктар, як прайшла аперацыя?
– Яшчэ ніяк, але раз ужо вы не спіце, прытрымаеце заціск вось тут.

***

Аб'ява: 55-гадовая жанчына, маці траіх прагамістаў, прасіць каго–небудзь не псіхаванага навучыць яе інтэрнэту.

***

– Дарагі, я знайшла тваю заначку і ўсю спусціла ў рэстаране з сяброўкамі. – Нічога страшнага, дарагая, гэта я табе на новае футра збіраў...

***

Даішнік спыняе кіроўцу: – Чаму ездзіце без рамяня бяспекі? Кіроўца: – Можна падумаць вы гэтаму не рады!

***

Жонка чытае кнігу і кажа мужу:
– Сяржук, якая ганьба! Ты толькі ўяві! Нейкі Багдановіч апублікаваў у гэтай кнізе вершы, якія ты прысвяціў мне, калі мы пазнаёміліся!




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№50 (1076) 11.12.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1556. Падпісана ў друк у 9.00 10.12.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.